ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

3 КАСТРЫЧНІКА 2003 г. № 40/4225

***ТРАГЕДЫІ, АПІСАНЫЯ БЕЗ ГНЕВУ, БЯССТРАСНА, БЕЗ АСУДЖЭННЯ...***

**Уладзімір САЛАМАХА "Сады... Навука ці трагедыя?"**

2-3



***ЛЁС ГІСТАРЫЧНЫХ СЯДЗІБ БЕЛАРУСІ Ў НАТАТКАХ***

**Генрыха ДАЛІДОВІЧА**

**"І палацам — не толькі мір!.."**

4-5






# ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ ТВОРЧАСЦІ І ПЛЁНУ

*У верасні выдавецтва "Міжнародны цэнтр культуры кнігі" адсвяткавала свой 10-гадовы юбілей*



*НА ЗДЫМКУ: кіраўнік МЦКК Валерый МІШЧАНКА.*

*Фота К. ДРОБАВА*

**Стар.** 12

Але, рэч не аб гэтым: латашылі — не латашылі. Рэч аб іншым... Ды толькі ў нашай беларускай літаратуры сотні разоў апісана, як хлапчукі лазілі ў сады, як іх лавілі там гаспадары і білі... Апісана без гневу, бясстрасна, без асуджэння тых, хто калечыў дзяцей, апісана, як звычайная з'ява, якая была, ёсць, будзе столькі, колькі будуць сады, іх гаспадары і хлапчукі, з усім тым, што ім прысутна. Нібы мы самі былі не такія. Апісана так, нібы ніхто з нас, ужо дарослых, не задумваўся над "слезой ребенка" з твора Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага, і над усім астатнім, што звязана са скалечанымі жыццямі...

Літаральна днямі быў сведкам, як на рынку каля аднаго сталічнага магазіна "некий" "хозяин" (нацыянальную прыналежнасць нават прыблізна не называю — скажуць, што распальваю нацрозні) прылюдна самымі брыдкімі словамі зневажаў дзяўчыну-прадаўца за тое, што надкусіла яго "тавар". (О колькі нашых дзяцей мы самі выкінулі ў базарную твань з яе адпаведнай псіхалогіяй і норавам на здзек такім "хозяевам"!). А яна, збялелая ці то ад страху, ці то ад сораму, ўсвядоміўшы, што чужое, не ведала куды падзецца. А нейкая старая сіпела: "Так ёй, так ёй..." І толькі двое з натоўпу асеклі "хозяина"...

"Антоўнаўскія яблыкі"... Паядынка... І: "Пужанеце, пужанеце, паніч..."

Ды адна з самых прыгожых з'яў на зямлі, якую не любіць лірычны герой аповесці "Лісце каштанаў" Уладзіміра Караткевіча...

І "дзедава навука" з балючага апавядання Алеся Дзятлава "Гарбун Пенька"...

Творы і рэальнае жыццё.

Калі творы, дык асабліва ў бунінскім вельмі прыгожа: "Галасы на вёсцы (з саду. — **У.С.**) або рыпення варот чуецца ў халаднаватым змярканні вельмі ясна". Або "У цемрыве, у глыбіні саду — казачная карціна: нібы ў куточках пекла, палае каля будана полымя, акружанае цемраю, і нечым чорным, быдта выразаныя з чорнага дрэва сілуэты ходзяць вакол вогнішча, між тым, як велічныя цені ад іх слізгочуць па яблынях..." (Гэта перад паядынкай, якой пакуль толькі "пужанеце").

Што да рэальнасцей — дык сёння ў нашых вёсках тысячы здзічэлых, састарэлых, "бесхозных" садоў, у многіх з якіх у свой час столькі было лёсаў скалечана. А ў большасць з іх ужо няма каму лазіць. Ва ўраджайны год сотні, калі не тысячы тон яблыкаўападаюць долу, гніюць...

На нашай зямлі сёння таксама мноства нікому не патрэбных вялізных калгасных садоў. Тых, у якіх яшчэ не так даўно вартаўнікі не толькі з "паядынак", але і з двухстволак пастрэльвалі. Найчасцей у дзяцей. Часам — траплялі, і не толькі соллю.

А на базарах нашых усё больш і больш з чужых краёў яблыкі. І яны танней за нашы, беларускія. І ўсё больш чужых "гаспадароў" яблыкаў гэтых... Каб жа толькі людзей прыстойных... Што да садоў майго дзяцінства, дык было так.

У той год, калі мы з бацькам садзілі сад — 30 яблынь, груш, сліў, вішняў — на сваіх 15 сотках, якія адводзіліся рабочакласаўскай пасялковай сям'і (тыя скачкоўцы, хто рабіў у калгасе, мелі 60) сады, як па камандзе, пасадзілі, здаецца, усе. Але, калі не ўсе, дык амаль усе.

Нашы сады раслі з намі. І калі яны сталі пладаносіць, штосьці не чуваць было, каб дзеці лазілі ў яблыкі. Што да нашай вуліцы, на якой жыла наша сям'я — гэта 13 хат, з нашага боку 9, насупраць 4, то і раней тут ніякіх здарэнняў з "падшыванцамі-злодзеямі" не здаралася. Справа ў тым, што не ведаю якім чынам раней за ўсіхніх садоў пачаў пладаносіць сад у дзеда Хведара Іларывонавіча Кірыленкі, перасяленца з Украіны, леса-часткаўскага цеслі. Асабліва летняя сліва на вуліцы супраць хаты, і кіслая, а тады ж дужа смачная, пепенка. Да іх у кожнага з нас быў "доступ". Але з адной умовай, якой прытрымліваліся мы, дзеці з нашай вуліцы, і якую ўжо мы, хлапчукі, ставілі прышлым, з чужых вуліц: "Сліву не ламай, да яблынькі ідзі баразёнкай, не тапчы дзеду бульбоўнік". І дзіўна, і нам, лічы сваім, і чужынцам хапала сліў і яблыкаў. Дзед жа Хведар, помню, гледзячы на падшыванцаў, якія ласаваліся дарамі яго саду, пасміхаўся ў пракураныя "рабочыя" вусы, казаў дарослым: "Пойдуць пладаносіць сады, дык наогул ніхто нікуды лазіць не будзе".

І сапраўды, праз колькі гадоў пасялковыя сады запладаносілі, ніхто нікуды не лазіў. А неўзабаве яблыкаў ужо не было куды дзяваць. Яблыкі елі да аскомін. Іх сушылі, з іх ціснулі сок. Ставілі віно (асабліва ў гады "борьбы с пьянством и алкоголизмом", калі, як хадзілі чуткі, недзе людзі высякалі вінаграднікі). Імі кармілі жывёлу. Было таксама, калі шанцавала, здавалі за бясцэнак у "нарыхткантору". Словам, сад шмат што даваў гаспадару. Што цанілася, а што — не. Калі, скажам, асабліва "цанілася" ў пасёлку, то самагонка з яблычнага соку. І не з хлеба: дзе яго ўзяць? З яблыкаў. Зразумела, што без гарэлкі, асабліва пенсіянеру, які ўжо нікому не патрэбны, кроку не ступіш. Паспрабуй накупляцца.

Здаць яблыкі дзяржаве, не ведаю, як дзе, але ў нашым пасёлку было вельмі няпроста. Але, зняў іх, каб не памяць. Пад кожнай яблыняй — горы. Няхай... Потым трэба паддобрыцца да якога Яшы (звычайна, нарыхтоўшчык чамусьці прыязджаў з Бабруйска, з суседняга раёна), каб ён "расстараўся" табе скрынак. Скрынкі даў, ну тады адбяры яблык да яблыка, перакладзі саломай (лесаўчасткаўскаму рабочаму, гаспадару сада і саломы той трэба "расстарацца", не за так проста, канечне, у калгасе). Затым, наваставы вуха, каб пачуць, праз колькі дзён прыйдзе машына, ды патрапіць у час... Узважыць прыёмшчык, з кожнай скрыні зробіць колькі кіло скідкі. Торкне пальцам: "Распішыся тут... І тут... І тут..." Распісаўся, або распісалася. Грошы — ча-кай!.. А тут ужо і снег. Вастры вуха зноў: калі ўжо грошы прывязуць. Прые-вез-лі... Павестка ў суд: "Вы, такі-та і такі-та.. Ваш подпіс?.. А гэты?.. А гэты?.. Не ваш?" (ён і сапраўды не яго...) Суд. Жанчыны бядуюць: "А-я-яй, Яшы далі тры гады. Такі ж харошы быў чалавек: ён табе і скрыні прывязе, ён табе і тое і сёе... Шкада, шкада чалавека. У яго ж дзеці. Ды хапіла б гэтага кіслоцця і нам і яму. Усяму Бабруйску хапіла б. Хай бы толькі забралі. У чый сад не пагляндзі — гніюць яблыкі, гніюць..."

Былі прыёмшчыкамі часам і свае. Ці супадзенне, ці заўсёды ім становіцца той, на каго б не падумаў, што ён можа "таргаваць". Яго людзі не далюблівалі, ведаючы, як аблупленага. У маладосці, да вайны — пакрадваў. У вайну — ні на фронт, ні ў партызаны, ні ў паліцаі. "Па дварах лазаў. Вядома, што мы, бабы, без мужчын, супраць яго. У мяне швейную машынку з-пад хлява выкапаў — тады ж рэч рэдкая, дарагая. У Шуры — парсюка звёў. У Алены... Адкуль ведаю, што краў, кажаш, за руку не схапіла, дык няма чаго на чалавека плявузгаць? Ды ён пасля вайны людзям шыў. І я нейк пайшла: пашыў. Ажно гляджу — мая машынка. Я яму — так і так, во, на концы шчарбіна, я яе і з завязаным вачыма пакажу... А ён — вон з хаты! Купіў... Ты яму з калом у глотку не залезеш..."

Але — калі прыёмшчык, дык ужо не нейкі там Мішка, а — Мікалаевіч. А ён да цябе, калі што якое — сціпаю. Яша, здаецца, не махляваў, і пасадзілі, а гэты абдурыць цябе вачавідкі і — яму нічога. Вось ужо і сын на легкавіку паехаў...

Словам, калі сады ўвабраліся ў сілу, клопату з імі — не "абабрацца". І як упарадкаваць? І толькі той жа стары з біблейскім іменем, ужо зусім нямоглы, і тая ж старая, што "Забі, забі, каб іншым навука..." кожны дзень на аўтобус з кашамі, ды — у горад.А ў аўтобусе кляне кандуктарку, што патрабуе за багаж. І ездзіць і ездзіць ажно да снегу. А як "паваліўся" тая, адзінокая і злосная старая, дык і труну не было каму збіць, хоць казалі, грошай багата ў сяннiку знайшлі. Хто знайшоў — невядома: "Хай паперкі тыя спрахнуць". І стары, адзінокі (жонка яго даўно памерла, казалі, што быў сын, але нібы бацька яго яшчэ пасля вайны, ужо васемнаццацігадовага атруціў у смалакурні), паміраў цяжка і доўга. Якраз у год, калі дужа ўрадзілі яблыкі, поўзаў ля яблынь, і ўсё стараўся нажоўкай спілаваць хоць адну. (Амаль так, як апісана ў аднаго нашага пісьменніка). Але сіл не ставала. Так і адышоў.

А сады майго дзяцінства, мой сад, сады маіх таварышаў, даўшы шмат ураджаяў, выканаўшы сваё, зададзенае ім прыродай, пачалі старэць, прыходзіць у заняпад. Адышлі з жыцця гаспадары, якія садзілі іх у адзін год з намі — 1960-ы. Мы былі позняя дзеці былых франтавікоў. Большасць з нас з'ехала з пасёлка, зараз пасля нашых бацькоў няма каму аднаўляць сады іх. Але ёсць, хоць і не шмат, іншых садоў. І вось укол колькі гадоў як прыязджаю, і пытаюся, ці лазяць дзеці ў яблыкі глядзяць на мяне, як на дзівака: "Навошта? Ідзі ў які хочаш сад, бяры, колькі павязеш".

Не ведаю, ці змянілася псіхалогію людзей, ці гэта ад таго, што ў пасёлку багата садоў, толькі, бачыце, як: "Ідзе ў які хочаш сад...".

А яблык сваіх у нашай краіне не хапае.

Дык што, нічога ў нас не робіцца, каб і сады былі садамі, і яблыкі свае, і гаспадары нашы?.. Робіцца.

Вось цытата з "Обоснования необходимости принятия республиканской программы развития плодоводства на 2003—210 годы", якую мне на пачатку гэтага года далі ў Мінсельгасе.

У "Обосновании" сказана, што "Под плодово-ягодными насаждениями (по состоянию на 01.01.2003 г.) в хозяйствах всех категорий занято 99,4 тыс. гектаров, из них 91,4 тыс. гектаров в плодоносящем возрасте, в том числе в сельскохозяйственных организациях соответственно 44,7 и 42,6 тыс. гектаров". Але па выніках праведзенай у 1998 годзе "инвентаризации плодово-ягодных насаждений" 59 працэнтаў пладовых культур у сельгаспрадпрыемствах рэспублікі аднесены па якасці да нізкага і вельмі нізкага банітэту. Садоў жа высокага і сярэдняга банітэту, якія могуць даваць высокія ўраджаі ў нас было ўсяго 18,3 тыс. гектараў.

Там жа адзначаецца, што "Имеющиеся 54,7 тыс. гектаров плодово-ягодных насаждений у населения и садовых товариществах не оказывают существенного влияния на баланс производства высокотоварной продукции" і г.д.

Не буду далей абцяжарваць чытача агульнымі лічбамі, якія яму мала што гаворыць. Але назаву тыя, што сапраўды тое-сёе значаць. Аказваецца, за 1996—2002 гады ў сярэднім на аднаго жыхара рэспублікі было "произведено" 36 кілаграмаў пладоў і ягад пры навукова абаснаванай медыцынскай норме — 80.

Але не будзем песімістамі. Бо Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання сумесна з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі, аблвыканкамамі распрацавана рэспубліканская праграма пладаводства на 2003—2010 гады. Згодна з гэтай праграмай, напрыклад, мяркуецца "довести к 2010 году потребление плодов и ягод на душу населения до 55—60 килограммов".

...Так, усё з садамі і з намі было і можа быць. І ў літаратуры, і ў жыцці. Як ужо ў названых, так і не названых творах. У рэальных, прыгаданых тут сітуацыях, вядомых мне, так і ў вядомых кожнаму чытачу асабіста... Вось толькі б гора ад садоў не было. Наогул і праз наша — як выкарчаваць са свядомасці — сцвярджэнне, калі калечаць дзіця — "навука на карысць"...

Архіважна і іншае: уменне гаспадарыць на ўсіх узроўнях, ды быць людзьмі. Каб знявагі не было ні ад сваіх гаспадароў, ні ад такіх чужых "хозяев". Без "оных" мы можам абысціся. А як госці — калі ласка! За наш стол, у нашы сады... разам з намі.

**Уладзімір САЛАМАХА**



# АД ПАДКАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прымае работы на саісканне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 2004 года.

Згодна з Палажэннем аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прэміі прысуджаюцца:

— за таленавітыя, глыбокія па змесце і адметныя па форме творы літаратуры, выяўленчага мастацтва, дызайну, архітэктуры, тэатральныя пастаноўкі, кінафільмы, музычныя творы;

— выдатныя дасягненні выканальніцкага майстэрства, якія маюць эстэтычную каштоўнасць і ўносяць значны ўклад у беларускую нацыянальную культуру;

— маштабныя публікацыі ў галіне журналістыкі, выдатныя даследчыя працы ў галіне літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства, тэорыі і гісторыі мастацтва.

Творы літаратуры і мастацтва, дызайну, навуковыя працы і архітэктурныя збудаванні прымаюцца да разгляду не раней, чым праз год пасля іх апублікавання ў друку, публічнага выканання, пабудовы.

Творы літаратуры, журналістыкі, публіцыстыкі, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, дызайну, навуковыя працы павінны быць апублікаваны, выстаўлены для публічнага прагляду, пабудаваны не болей чым за пяць год, а кіна- і тэлефільмы, тэатральныя, радыё- і тэлеспектаклі, канцэртныя праграмы публічна выканаlittlebig, паступілі ў пракат не больш чым за тры гады да даты прысуджэння прэмій.

Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прысуджаюцца адзін раз у два гады (кожны цотны год).

Памер прэміі ўстанаўліваецца пры зацвярджэнні рашэння аб яе прысуджэнні Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Вылучэнне работ на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ажыццяўляецца міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, арганізацыямі, творчымі, грамадскімі аб'яднаннямі, установамі культуры, навуковымі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, працоўнымі калектывамі, рэдакцыямі газет і часопісаў, выдавецтвамі.

Рашэнне аб вылучэнні работы прымаецца адкрытым галасаваннем, а аб вылучэнні кандыдатаў у калектыў саіскальнікаў — тайным галасаваннем з удзелам усіх аўтараў работ (пры наяўнасці кворуму, прынятага ў арганізацыі, дзе праводзіцца галасаванне). У склад калектыву, які вылучаецца, могуць уваходзіць толькі асобы, якія з'яўляюцца аўтарамі дадзеных твораў. Тайнае галасаванне кандыдатур саіскальнікаў праводзіцца па месцы іх працы або ў арганізацыі, якая іх вылучае.

Не дапускаецца вылучэнне на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры работ, аўтары якіх раней адзначаны за іх дзяржаўнымі ўзнагародамі. Не дапускаецца і адначасовае прадстаўленне адной і той жа работы (або кандыдатуры) на атрыманне Дзяржаўнай прэміі іншай дзяржавы.

Не дапускаецца ўключэнне ў калектыў саіскальнікаў асоб:

— толькі па прыкметах адміністрацыйнага, кансультатыўнага і арганізацыйнага дачынення да работы;

— раней удастоеных за гэту работу дзяржаўнай узнагароды;

— уключаных у калектыў аўтараў работы, вылучанай на атрыманне міжнароднай прэміі або прэміі іншай дзяржавы.

Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь паўторна не прысуджаецца.

У састаў калектыву саіскальнікаў могуць быць уключаны асобы, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, але выконвалі работу па сумесных з арганізацыямі рэспублікі планах і праграмах і вылучаны гэтымі арганізацыямі.

Работы, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, прымаюцца да разгляду Падкамітэтам па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры да 1 лютага 2004 года і разглядаюцца ў два этапы. На першым этапе адбіраюцца работы для ўдзелу ў конкурсе на атрыманне прэміі, на другім — прымаецца рашэнне аб прысуджэнні прэміі.

**Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем і афармленнем работ, звяртацца ў Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры па адрасе: 220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 5, пакой 412, тэл./факс: 284-23-81.**

КАНЦЭРТЫ

## ШУМІЛІНА, ШУМАН...

У смузе восеньскага надвячорка панад ціхім і сонным кутком Верхняга горада луналі чароўныя гукі музыкі. Мелодыя вырывалася з цесных абдымкаў камяніцы, падымалася ўверх, у абшар цямнеючых нябёсаў... 19 верасня Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры вітаў гасцей: выдатную піяністку, салістку Белдзяржфілармоніі Ірыну Шуміліну і яе ўдзячных слухачоў. А палове сёмай камерную залу музея запоўніла публіка, паяднаная любоўю да класічнай музыкі. Гэта і сталыя жыхары Мінска, і вучні гарадскіх школ, і госці з раёна, якія досыць доўга дабіраліся на імпрэзу.

І недарэмна. Бо майстэрства Ірыны Шумілінай, добрая акустыка памяшкання і якасць гучання інструмента (раяль Л. П. Александроўскай) стварылі атмасферу сапраўднага музычнага свята. Дарэчы, піяністка не ўпершыню давала канцэрт у зале музея. Летам, як вядома, яна ўдзельнічала ў прэзентацыі нотнага зборніка фартэпіянных твораў беларускага кампазітара Яна Тарасевіча. (гл. "ЛіМ" за 4.07.03 г., "А слава яго абмінула".)

Гэты канцэрт складаўся з твораў Роберта Шумана: "Прысвячэнне" (транскрыпцыя Ф. Ліста) ор. 25, Арабеска До мажор ор. 18, варыяцыі "ABEG"ор. 1. Таксама прагучала і "Інтэрмецца" (музычны партрэт Р. Шумана з цыкла беларускага кампазітара Ш. Ісхакбаевай "Партрэты вялікіх кампазітараў") і інш.

Праграма праходзіла ў рамках цыкла музычнай адукацыі для вучняў школ, і таму Ірына Шуміліна не толькі выконвала захапляльныя творы, але і распавядала прысутным цікавыя акалічнасці з гісторыі музыкі і жыцця таленавітага нямецкага кампазітара-рамантыка. Слухачы натхнёна сачылі за выканаўцай, і амаль паўтарагадзінны канцэрт праляцеў імгненна. Шчырыя авацыі былі яскравай праявай удзячнасці.

Усевалад СЦЕБУРАКА,
навуковы супрацоўнік
Дзяржаўнага музея гісторыі
тэатральнай і музычнай культуры
Беларусі

ГОСЦІ

## ВІЗІТ ДЫРЫЖОРА

***Трэці раз прыязджае на Беларусь швейцарскі дырыжор Райнер ХЕЛЬД.***

У маэстра склаўся добры творчы кантакт з Сімфанічным аркестрам Белтэлерадыё: рыхтаваліся канцэртныя праграмы, якія выконваліся і ў Мінску, і ў Швейцарыі, дзе да нашых музыкантаў далучыўся харавы калектыў кантона Ааргау (хорам кіруе сп. Хельд). Пры канцы верасня наш госць ажыццявіў у студыі Дома радыё запіс 7-й сімфоніі Бетховена, выязджаў з аркестрам у Магілёў, даў канцэрт у Беларускай акадэміі музыкі.

Н. К.

АБСЯГІ

## У БІБЛІЯТЭКІ — ЮБІЛЕЙ

Днямі споўнілася 95 гадоў з часу ўтварэння Рагачоўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі. Зараз гэта буйнейшая культурна-асветная ўстанова, дзе налічваецца 63 тысячы экземпляраў. А ўсяго раённая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма мае 45 бібліятэк, з іх 41 — у сельскай мясцовасці. Штогод абслугоўваецца каля трох тысяч чытачоў.

*Міхась СЛІВА*
*г. Рагачоў.*

НАДЗЁННАЕ

***Міжнародная канферэнцыя на тэму "Гістарычныя сядзібы Беларусі: стан і будучыня" адбылася на пачатку верасня гэтага года. Залессе — маляўнічая мясціна, дзе ў першыя два дзесяцігоддзі XIX ст. жыў і тварыў М. К. Агінскі — дзяржаўны дзеяч, вучоны, пісьменнік, гаспадарнік-эканаміст, кампазітар, аўтар неўміручага паланеза "Развітанне з Радзімай". Форум наладзілі Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА (старшыня У. Шчасны), Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС, старшыня У. Гілеп), Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ, Нацыянальнае агенцтва па турызме і спорце, Смаргонскі райвыканкам. Сярод больш чым 100 удзельнікаў канферэнцыі — вучоныя розных профіляў, мастакі і архітэктары, грамадскія дзеячы і прадстаўнікі ўлад, краязнаўцы, спецыялісты з Польшчы, Украіны, Літвы і Расіі.***

# «І ПАЛАЦАМ — НЕ ТОЛЬКІ МІР!..»

## Нататкі з Міжнароднай канферэнцыі ў Залессі Смаргонскага раёна



### З ДАЛЁКАЙ ГІСТОРЫІ

Паняцце магнацкіх сядзіб (сяліб) вядомае з XI—XII стагоддзяў, часамі яны (замкі) засноўвалі гарады і мястэчкі. Апроч магнацкіх, былі сядзібы сялянскія, рамесніцка-гандлярскія, шынкарскія. Сялянскія сядзібы былі простыя і практычныя — двор, агарод і сад, у двары — хата і гаспадарчыя будынкі. У рамеснікаў, гандляроў і шынкароў былі жылы дом, крамы, майстэрні, свірны, шынкі і г.д. З XVI ст., з увядзеннем валочнай памеры, у буйных сядзібах, дзе добра развівалася сельская гаспадарка, мяняецца архітэктурна-планіровачны характар, вылучаюцца гаспадарскі двор, фальварак, гумнішча, аборы, млыны і бровары, за горадам большае лецішча, "паляўнічых дамоў". З XV ст. пры замках феадалаў, манастырах, калегіумах вядомыя паркі, дзе вырошчвалі лекавыя травы, садавіну і гародніну, а з XVIII ст. ствараюцца вялікія паркі рэгулярнага і пейзажнага тыпу, што набываюць характар садова-паркавага мастацтва. На Беларусі такіх сядзіб было тысячы. Многія з іх не пашкадаваў час, многія пацярпелі з-за аб'яўленай ім бальшавікамі вайны, многія прадаўжаюць разбурацца, дзічэць з-за абыякавасці ці недахопу сродкаў.

Агінскія здаўна займалі высокія пасады ў ВКЛ. М. К. Агінскаму перадалі Залессе ў 1791 годзе, але ён тады не здолеў там загаспадарыць: заміналі дзядзькавы даўгі, падзелы Рэчы Паспалітай, удзел у паўстанні Т. Касцюшкі, дыпламатычныя візіты ў еўрапейскія сталіцы з пошукам дапамогі, эміграцыя, варункі з Напалеонам, якому не вельмі верыў, і з Аляксандрам I (падаваў яму праект заснавання аўтаномнага Вялікага герцагства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі), але ўсё дарма: манархі разыгрывалі сваю карту, па-свойму дзялілі Еўропу. М. К. Агінскі пасля міласці Санкт-Пецярбурга пасяляецца ў Залессі пасля 1802 і жыве там з перапынкам амаль 20 гадоў. Стаўшы гаспадаром, ён пачынае абладжваць маёнтак — будуе аднапавярховую будыніну літарай "L", капліцу, жыллё для слуг, ставок, вадзяны млын, канюшні, аранжарэі-цяпліцы, дзе вырошчвае цытрусавыя, парк, дзе былі альтанкі, сотні раслін і кветак, звярынец. Пасля 1815 года гэты беларускі куток з-за прыгажосці назавуць "Паўночнымі Афінамі", "сядзібай муз". Пасля выезду Агінскага з Залесся, яно пэўны час належала нашчадкам, потым перайшло ў чужыя рукі, было ў Заходняй Беларусі ўладаннем дзяржавы, пасля 1939 года — на сядзібе дом адпачынку, дом старых, пазней належала Смаргонскаму сілікатнаму заводу (пэўны гаспадар, рамонты, чалавечы дух памаглі будынку захавацца), з 1996 — Міністэрству культуры, з 2000 — дзяржаўнаму музею тэатра і музыкі, які, як вядома, не мае сродкаў, каб рэстаўраваць сядзібу. Стан яе падтрымліваецца некалькімі энтузіястамі, якім па сіле, зразумела, нямногае, найперш прыбраць двор і парк.

### ДЫК ШТО З СЯДЗІБАМІ?

Канферэнцыя пачалася ўрачыста: хлеб-соль, песеннае прывітанне гаспадароў, адкрыццё ў Залессі каменя-помніка "Памяці роду Агінскіх" (аўтар-мастак **Р. Груша** з Ліды), хоць далей гутарка вялася не толькі ўзнёсла. Пры адкрыцці канферэнцыі **У. Шчасны** зазначыў, што неабходная шчырая і спакойная размова, што трэба быць рэалістам — цяпер дзяржава можа ўзяць пад ахову толькі 175 сядзіб, якія трэба вывучыць, захаваць, рэстаўрыраваць і выкарыстоўваць іх для культурна-эканамічных мэт, як гэта пачынае рабіцца ў Міры і Нясвіжы. Маючы на ўвазе вялікую зацікаўленасць да праблемы самых розных колаў грамадства, прамоўца сказаў літаральна так: "У нас ёсць каманда, але не было ветру, каб ветразі паднялі карабель. Цяпер мы павінны паплыць", а таксама зачытаў прывітанне з Англіі далёкага сваяка М. К. Агінскага І. Залускага, які падрыхтаваў кнігу "Гены Агінскага" і частку ганарару за яе мяркуе перадаць на рэстаўрацыю Залесся. Сканцэнтраваць увагу на турбоце па ім заклікалі намеснік міністра культуры РБ **В. Гедройц** і старшыня Смаргонскага райвыканкама **С. Юргель**.

Размову, сапраўды, шчыра і спакойна пачаў прафесар-біёлаг **А. Федарук**, які зазначыў, што колькасць сядзіб у нас не падлічана, толькі ў чатырох абласцях (апроч Гомельскай і Магілёўскай) іх болей 1170, многія з іх захаваліся толькі часткамі (дом ці руіны, гаспадарчая пабудова альбо парк), не занесеныя ў рэестры і не пашпартызаваныя, хоць сядзібы на Беларусі — рэч фенаменальная, яны, на думку вучонага, з'явіліся ў нас ужо ў XVI ст., калі паўстала шляхецкае саслоўе, калі з'явілася заканадаўчая база, калі сядзіба пачала станавіцца культурна-эканамічным цэнтрам (на кожныя 25 кв. м. была бібліятэка, а яшчэ ў многіх мясцінах меліся карцінныя галерэі, скульптуры, праводзіліся літаратурна-музычныя вечары,тэатральныя прадстаўленні), калі асобныя сядзібы надоўга мелі сваіх заклапочаных гаспадароў — скажам, Ліпай каля Нясвіжа Абуховічы валодалі амаль 600 гадоў. Рэктар Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры прафесар **У. Скараходаў** засяродзіў увагу на дзейнасці Нясвіжскай міжнароднай акадэміі, якая за 2 гады навучання рыхтуе спецыялістаў па ландшафтах, найперш па парках; здаўшы экзамены ў Варшаве, навучэнцы атрымліваюць міжнародны сертыфікат і могуць працаваць у Беларусі, Украіне, Літве, Расіі (на жаль, не ўсе працаўладкоўваюцца і не ўсе знаходзяць прымяненне сваім адмысловым ведам). Адзін з выпускнікоў гэтай установы, вядучы спецыяліст па ахове помнікаў Брэсцкага аблвыканкама **Л. Несцярук,** ён жа і аўтар кнігі пра паркі і палацы Брэстчыны, дзе апісаў 400 аб'ектаў (усіх сядзіб было каля 500, паўацалела 220), прадоўжыў размову. Цяпер на Брэстчыне, сказаў ён, намаганнямі энтузіястаў і ўлад прыводзіцца да ладу ў кожным раёне па адным парку ў год і часам не толькі за дзяржаўны кошт, але і пры дапамозе грамадскіх фондаў — Л. Сапегі, Т. Касцюшкі, Н. Орды. Справы, на думку Л. Несцярчука, не толькі ў іхняй вобласці, але і па ўсёй Беларусі маглі б значна палепшыцца, каб было адпрацавана ў гэтым накірунку, як стагоддзі раней, заканадаўства. Скажам, яго знаёмы мог бы набыць за немалыя грошы вядомы палац Пуслоўскіх у Косаве, каб надаць яму былы прыстойны выгляд, але не ўдаецца. Апроч прававых аспектаў, пасля гаварылі і іншыя выступоўцы, ёсць яшчэ і іншыя — да слова, невядома, а па якой цане прадаваць не толькі больш-менш захаванае, але і рэшткі, тыя ж падмуроўку ці старую ліпу? Ды, жартавалі, можа ўсё быць зусім проста: не кожны чыноўнік дазволіць, каб не ён, а нехта іншы быў уладальнікам палаца! Дырэктар Свірскага прафесійна-тэхнічнага ліцэя. **Э. Вайцяховіч** перасцярог, каб у прапагандзе захавання былых сядзіб як выдатных асяродкаў нашай культуры (часта спалучанай з іншымі, еўрапейскімі культурамі) не запыняцца на тым, што гэта — толькі своеасаблівыя музеі. У сядзібах жылі, працавалі, адпачывалі. Гэта была адмысловая жылая інфраструктура, таму цяпер да ўсяго гэтага патрэбны спецыфічныя падыходы, пачынаючы з шырэйшага развіцця сельскага турызму і агратурызму. Прыемныя апантанасць, эмацыянальнасць і заклапочанасць у сваёй рабоце паказаў намеснік дырэктара садова-паркавай гаспадаркі ў Лошыцы, біёлаг па адукацыі **Я. Цярахаў**, які сцвярджаў, што гэтаму парку болей за 1100 гадоў, мяркуючы па знойдзеным язычніцкім капішчы, таму "гэта кніга, а з кнігі нельга вырываць ні старонкі" — адпаведна, да якіх помнікаў патрэбны не толькі матэрыяльны, але і філасофска-эстэтычны падыход. Тут — не галоўнае бульдозер, тым больш, што ў старых парках цяжкую тэхніку нельга выкарыстоўваць, яна псуе не толькі травяное покрыва, карэнне дрэў, але і мяняе структуру зямлі. Выступоўца расказаў, як яны намагаюцца, каб парк у Лошыцы быў не глухой зонаю, а месцам пазнання гісторыі і культуры нашых продкаў, цывілізаванага адпачынку, дзеля чаго ладзяць Дзень зямлі, рыцарскія турніры, шматлікія асветніцка-выхаваўчыя экскурсіі, і не пагадзіўся, што можна ўсё прыватызоўваць: многія былыя сядзібы тыпу Лошыцкага парку — гэта найперш нацыянальная, агульнарародная каштоўнасць, і наконт гэтага ў заключэнне прачытаў свой натхнёны верш на добрай беларускай мове. Па-свойму адметны і слушны голас падала дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа **З. Камароўская:** безумоўна, пагадзілася яна, трэба захоўваць панскія сядзібы, да чаго прыкладалі свае рукі і народныя ўмельцы, але ні ў якім выпадку нельга не клапаціцца і пра сядзібы сялянскія. У гэтым сэнсе вялікае значэнне для глыбейшага пазнання ранейшага жыцця простага беларускага люду маюць шматлікія Коласавы мясціны на Стаўбцоўшчыне, якія таксама маглі б быць уключаныя ў дзяржаўны Мірска-Нясвіжскі праект. Коласаўскі музей цяпер распрацоўвае турыстычны маршрут "Шляхам двух Міцкевічаў" — Адама Міцкевіча і Якуба Коласа. На заканчэнне першай часткі канферэнцыі (усіх было чатыры пасяджэнні з дакладамі і выступленнямі) самая спакойная, але і самая загадкавая была прамова прадстаўніка Міністэрства аховы навакольнага асяроддзя **В. Карэнчука**. Ён паведаміў, што ў іхняга ведамства ёсць сродкі, у тым ліку і для рэстаўрацыі сядзіб, але, як мы прызналі ў кулуарах, "ніякіх карт не раскрыў". Значыць, варта зацікаўленым арганізацыям, асобам выяўляць тыя "карты" ў гэтым міністэрстве.

### А ШТО ЭКСПЕРТЫ?

Ім, замежнікам, было дадзена слова на другім пасяджэнні. Выступленні адных з іх выклікалі поўнае разуменне, іншых — зайздрасць, зразумела, светлую. Зайздрасць была ад таго, што ў іх, таксама не вельмі заможных, больш увагі і павагі да мінулага, многае ўжо вырашана, да чаго ў нас толькі падступаюцца на высокім узроўні. Прафесар з Польшчы **А. Міхалоўскі** (калега нашага У. Гілепа па грамадскай рабоце), канечне, мог толькі з гонарам парадавацца: на яго радзіме 22 нацыянальныя паркі, 25 батанічных садоў, 37 музеяў-запаведнікаў, 40 музеяў-рэзідэнцый, шмат ландшафтных паркаў, музейных садоў. Гэта не можа не адраджаць гістарычную памяць, павышаць усіхную культуру. Некаторыя аб'екты прададзены (як і на Захадзе, за сімвалічныя грошы, літаральна за адзін злоты, але з вялікім наборам умоў прыватным асобам, якія наладжваюць там

свой сервіз — паляўнічыя домікі, кафэ, гасцініцы і г.д., але зусім не псуюць навакольнага асяроддзя). Значыць, мінуўшчына жыве, кліча, выхоўвае! А сядзібы нацыянальнай каштоўнасці і ў Польшчы прыватнікам не прадаюцца. Польскі госць ухваліў правядзенне канферэнцыі ў Залессі на карысць усіх сумежных культур і прапанаваў працягваць пачатую справу, прадаўжаць распрацоўваць навукова-культурную, прававую базу і шукаць сродкі. Ухвалілі гэта і прадстаўнікі Расіі — загадчык філіяла "Сядзіба Дзям'янава" Дзяржаўнага Дома-музея П. Чайкоўскага **С. Каханава** ("Каханая", — прыязна пажартаваў мой сусед па сталe), дырэктар музея-запаведніка Хмяліта **В. Кулакоў** (у яго прамове прагучалі і сугучныя нам ноткі пра гаротнае становішча расійскіх сядзіб, аддаленых ад вялікіх гарадоў і маршрутаў) і дырэктар музея-запаведніка "Старая Ладага" **Л. Губчэўская**, якія дружна падкрэслілі, што адраджаць старажытныя сядзібы вельмі неабходна, але цяжка: на жаль, не заўсёды можна разлічваць на "новых рускіх", бо многія з іх найперш маюць на ўвазе сваё самалюбства, свой імідж і не належаць да асоб высокай культуры, новай інтэлектуальнай эліты. Усіх вельмі зацікавіў, уразіў вопыт "Старой Ладагі" не толькі па выжыванні, але і па зароблках і, па-другое, вялікай увагай да гэтых старажытных мясцін (ёсць рэшткі кварталаў з VIII ст.) Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, які не толькі спецыяльна наведаў іх, але і асабліва падкрэсліў, што новая дзяржаўная ідэалогія ў Расіі павінна абапірацца менавіта на гістарычны падмурак. Невыпадкова там ужо ёсць "Таварыства вывучэння рускай сядзібы", што, безумоўна, дае і нам прыклад такой свядомай, разумнай дбайнасці. І з выступлення госці з Украіны, намесніка старшыні Дэпартамента краіны па ахове помнікаў, было бачна, што і паўднёвыя нашы суседзі пайшлі ў гэтай справе далей за нас і менавіта на дзяржаўным узроўні, хоць і там ёсць свае турботы і небяспекі — праблема адводу зямель пад запаведнікі, "чорная археалогія", г.зн. недазволеныя раскопкі, рабункі нацыянальна-дзяржаўных багаццяў і г.д. **А. Мальдзіс** завастрыў увагу на тое, што ў нас часамі не выкарыстоўваецца тое, што, як кажуць, ляжыць пад носам. Скажам, сядзібы на беларуска-літоўскім памежжы (Браслаўшчына і яе азёры, Астравеччына з літоўскімі вёскамі, Гродзеншчына з яе гістарычным мінулым). Усё гэта можа быць у полі зроку Беларусі і Літвы, толькі трэба дапамагчы адпаведным структурам распрацаваць адпаведныя мікрапраграмы па турызме па кожным раёне, а таксама патрэбна адпаведная рэклама ў нас і ў суседніх краінах. Цяпер жа ў нас найчасцей рэкламуюць турызм у іншыя мясціны, у тыя ж Турцыю і Кіпр, дзе, бясспрэчна, ёсць свае экзотыка і вабнасці. Але ж яны, свае, ёсць жа і ў нас, чаго часамі мы нават самі не ведаем. Прадстаўнік Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ **В. Захарчанка** выказаў думку, што цяпер ва ўзнаўленні сядзіб слынных людзей адно з галоўных патрабаванняў — вывучэнне і вызначэнне чарговасці адраджэння, выклік зацікаўленасці ў гэтай справе не толькі нашых грамадзян, улад, але і іншых краін, міжнародных фондаў, без чаго не абысціся. А што да закандаўчай базы, то патрэбны больш акрэсленыя прапановы знізу — значыць, правядзенне такіх Міжнародных канферэнцый, як гэтая, рэч своечасовая і мэтазгодная.

## ГРОШЫ ЁСЦЬ ГРОШЫ

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі **А. Кіштымаў** запыніўся на тым, як гэты клопат вырашалі ў мінулым, на эканамічнай дзейнасці былых сядзіб, бо эканоміка шмат у чым залежыць ад уласнасці, гаспадара і яго кемнасці ды прапрымальнасці. У гэтым сэнсе многія сядзібы на беларускай зямлі працвіталі, нават у XIX і XX стагоддзях не чэзлі і не паміралі, як у Расіі, дзе шырока высякалі "вішнёвыя сады", тут і тады працягвалі добра дбаць, лічыць, садзіць, побач з ранейшымі палацамі, паркамі, капліцамі, аранжарэямі, канюшнямі і карэтнымі з'яўляліся сыраварні, ткальні, бровары, заводы, што перапрацоўвалі драўніну і здабыткі поля. Мелі занятак, заробак былыя прыгонныя, былі тавары на вываз і продаж. У гэтым сэнсе лозунг "Все вокруг народное (колхозное), все вокруг мое" жыццём не апраўдаўся. Ды і цяпер можна пачуць: "Памешчыку Агінскаму месца ў нас няма, хоць і мы хочам месца тое, што меў ён!" Адпаведна, сядзіба без уладальніка-гаспадара і далей будзе мёртвай. Але як "кланіраваць" новых Агінскіх? А таксама і сялян, дбайных працаўнікоў? Як пачаць, завесці новую эканоміку, высокую сядзібную культуру? Зрабіць усё гэта жывым, даходным? Пра сродкі для аднаўлення сядзіб гаварылі намеснік старшыні Беларускай рады ІКАМОСА **В. Глінік**, намеснік дырэктара Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і інфармацыі Міністэрства культуры РБ **І. Чарняўскі**. У іхніх выступленнях прагучала пра раз'ядналасць увагі, клопату ведамстваў пра архітэктурныя помнікі і паркі, пра адсутнасць дзяржаўнай канцэпцыі аховы культурнага ландшафту, пра пытанні куплі-продажу, спонсарства, падаткі на матэрыяльна-культурныя каштоўнасці. **У. Гілеп** зазначыў, што неабходна не марудзіць, не чакаць часоў, а больш актыўна дзейнічаць: яшчэ гадоў 10 таму, скажам, Нясвіж узгадваўся нават у нас, асабліва ў час БССР, толькі ў сувязі з высокімі ўраджаямі, а цяпер годна гучыць і ў сувязі са спадчынай, культурай. Пры вялікім нашым клопаце Нясвіж вывучаецца, разглядаецца экспертамі ЮНЕСКА як магчымы аб'ект сусветай каштоўнасці і атрымання міжнароднай дапамогі. Вось так мэтанакіравана трэба дбаць і наконт Залесся, іншых нашых славутых мясцін. Таксама адно з галоўных — пераадолець беспамяцтва, раўнадушша, імкненне да пэўных часовых хімер, пашырыць і паглыбіць разумны дыялог у грамадстве, мець ясную і гарантаваную дзяржаўную палітыку ў ахове гісторыка-культурнай спадчыны, у тым ліку і ландшафтаў. Старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "Агра-і Экатурызм" **В. Кліцунова** падзялілася сваімі назіраннямі, вопытам пра пачатак і станаўленне сённяшніх Дудутак, якія, на яе думку, паказалі прыклад ажыццяўлення былых сядзіб на аснове гарантаванай уласнасці на 170 га зямлі, свабоды развіцця (хто што ўмее і можа рабіць), самаакупнасці. Што да ўладальнікаў Дудутак, то яны, сапраўды, пазней каменціраваліся ў кулуарах, здолелі пэўнымі захадамі, у тым ліку і вырабам самагонкі, утрымацца, зарабіць. Але ці ўзор гэта нацыянальнай каштоўнасці? Ці не ўсяго толькі падробка?

## І ЯШЧЭ РАЗ ПРА ТУРЫСТАЎ

Генеральны дырэктар УП "Нацыянальнае агенцтва па турызму" **Ч. Шульга** паўтарыў тое, што ўсім добра вядома: турызм у свеце меў, мае і будзе мець вялікае значэнне. Як для тых жа Турцыі і Кіпра, так і для іншых. Але не сакрэт: сёння з Беларусі, хто сабраў кашалёк долараў, едзе за мяжу, хоць тут яго тыя долары маглі б памагчы адnaўляць і былыя сядзібы, прывабліваць да іх турыстаў з іншых краін (выезд нашых у разоў 10 пераважае ўезд замежнікаў). Сярод сваіх турыстаў па Беларусі большасць школьнікаў і льготнікаў — значыць, заробак невялікі. Загадчык навуковага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы **С. Сільвестрава** спынілася на рэестрацыі сядзіб на Беларусі і іх пашпартызацыі, заклікала стварыць Каардынацыйную раду па праблемах сядзіб і выдаваць для ўсіх, у тым ліку і для турыстаў, бюлетэнь "Беларуская сядзіба" (раздзел з такой назвай можна весці ў "Краязнаўчай газеце". — Г. Д.) Дырэктар Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі **С. Мітраховіч** расказаў пра акцыі, якія прадпрымае ўстанова для прапаганды гісторыка-культурнай спадчыны рэспублікі, для арганізацыі турызму найперш у асяродку моладзі: гэта — наладжванне экспедыцый "Наш край" і конкурсаў музеяў школ.

## ...І ЗАЛЕССЕ

Асабіста я і з іншых выступленняў (на жаль, не магу нават па тэхнічных прычынах пераказаць усе, але зацікаўлены змогуць праз нейкі час падрабязна пазнаёміцца з імі ўсімі па брашуры, якую мяркуюць выдаць арганізатары Міжнароднай канферэнцыі) не пачуў, што размова ў Залессі была непатрэбная. Больш — дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі музычнай і тэатральнай культуры **З. Кучар**, загадчык аддзела культуры Смаргонскага райвыканкама **Т. Ражава**, намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама **С. Шмыга** выказалі ўпэўненасць: Залессе будзе жыць, вабіць да сябе людзей з многіх краін свету як да "сядзібы музаў", дзе менавіта тут можа на поўную творчую моц гучаць слынны паланез "Развітанне з радзімай".

Удзельнікі Міжнароднай канферэнцыі ўхвалілі канцэптуальныя накірункі праекта аднаўлення і выкарыстання сядзібна-паркавага ансамбля Агінскіх, канцэпцыю аховы і мэтанакіраванага выкарыстання культурных ландшафтаў у краіне, прынялі выніковы дакумент.

...І ўсё ж у Залессі было шмат узнёслага: супрацоўнікі былой сядзібы Агінскіх правялі грунтоўную экскурсію, паказалі копіі дакументаў, партрэтаў былых уладальнікаў і іхніх сем'яў да сябрoў, мастацкую выставу сённяшніх дзяцей, іхніх бацькоў і дзядоў на гістарычную тэматыку, у тым ліку і залескую, а залескія дзеці, як і іхнія старэйшыя калегі з суседніх сядзіб (Ф. Багушэвіча і іншых) парадавалі прыгожымі песнямі. В. Скорабагатаў з мінскімі спевакамі і музыкантамі ачараваў нашы сэрцы ў былой аранжарэі Агінскага выкананнем яго твораў, што ствараліся тут, і якія "дома" гучалі надзвычай меладычна, цёпла і сардэчна. Усе мы атрымалі і яшчэ адзін падарунак — толькі што выдадзеныя па заказе і пры садзеянні Нацыянальнай камісіі РБ па справах ЮНЕСКА каталог і карту "Сядзібы Беларусі", дзе кароткія звесткі, ілюстрацыі пра 175 гісторыка-культурных куткоў Бацькаўшчыны, узятых пад ахову дзяржавай.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ,**
**намеснік галоўнага рэдактара "Краязнаўчай газеты"**



# ПІСЬМЕННІКІ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА ВАКОЛ РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЙ УСТАНОВЫ "ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА"

30 верасня адбыўся Агульны сход членаў СБП, якія працуюць у Рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і мастацтва". На сходзе, які стаў Устаноўчым сходам, было разгледжана пытанне аб стварэнні Грамадскага аб'яднання "Мінская пісьменніцкая арганізацыя". Вынікам пасяджэння стала ўтварэнне Грамадскага аб'яднання "Мінская пісьменніцкая арганізацыя".

На сходзе быў прыняты Статут ГА "МПА", выбраны старшыня ГА "МПА" — Павел Вераб'ёў і рэвізійная камісія.

Грамадскае аб'яднанне "Мінская пісьменніцкая арганізацыя" з'яўляецца арганізацыяй непалітычнай, якая аб'ядноўвае на добраахвотных пачатках членаў СБП, якія пражываюць у Мінску, і будзе ажыццяўляць сваю дзейнасць на тэрыторыі горада, супрацоўнічаць з культурна-асветніцкімі і дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі ў адпаведнасці з Статутам, Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Асноўная мэта аб'яднання -- садзейнічанне ўсебаковаму развіццю асобы, выхаванню патрыятызму і гонару за сваю краіну шляхам стваральнай творчай працы, выдання, прапаганды і распаўсюджвання высокамастацкіх твораў літаратуры.

Ва Устаноўчым сходзе ГА "МПА" ўдзельнічаў паршы намеснік старшыні СБП Барыс Пятровіч.

# ПАШАНА ЛІТАРАТУРЫ



У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Я. Коласа 25 верасня прайшла вечарына, прысвечаная памяці вядомага беларускага пісьменніка С. Грахоўскага, якому сёлета споўнілася б 90 гадоў. На ёй з прамовамі, словамі ўспамінаў выступілі навукоўцы Л. Гарэлік, Л. Савік, В. Жураўлёў, Т. Дасаева, Р. Александровіч, пісьменнікі В. Іпатава, У. Скарынкін. Пачэснай госцяй музея ў той дзень была дачка пісьменніка Тацяна, якая расказала прысутным пра свайго бацьку і яго нялёгкі лёс. З прыемнасцю віталі ўсіх, хто завітаў у Коласаву хату, супрацоўнікі і дырэктар музея З. Камароўская (вёў вечарыну І. Курбека), сын Я. Коласа, вучоны М. Міцкевіч. Вершы С. Грахоўскага, што прыгожа аздобілі імпрэзу, прачытаў артыст А. Вінярскі. Сустрэча з творчасцю пісьменніка завяршылася выступленнем ансамбля пад кіраўніцтвам І. Раманчука "Мінскі гармонік". Падчас вечарыны прагучаў голас самога С. Грахоўскага, запісаны на магнітафонную стужку. Шмат гаварылася пра паходжанне славутага пісьменніка, што, як вядома, вёў свой радавод з беларускіх татараў. Дзённікі С. Грахоўскага, між іншым, усё яшчэ чакаюць апублікавання...

**Святлана САЧАНКА**

**НА ЗДЫМКУ: дачка С. ГРАХОЎСКАГА — Таццяна і І Курбека.**

# ФІЛОСАФЫ — ДА БАР'ЕРА!

Сёння на Малой сцэне Купалаўскага тэатра адбудзецца прэм'ера спектакля "Барух Эмануэль" паводле п'есы шведскага журналіста Дзмітрыя Плаксы (беларуса па паходжанні), напісанай два гады таму па замове Каралеўскага драматычнага тэатра Швецыі. Купалаўскія акцёры Аляксандр Маўчанаў, Раман Падаляка, Павел Яскевіч разыграюць "філасофскі дыялог у трох асобах". Даволі складаную для сцэнічнага ўвасаблення п'есу, у якой ва ўяўленні Чалавека спрачаюцца два знакамітыя філосафы: Спіноза і Сведэнборг, між іншым, паставіла малады шведскі рэжысёр Наталі Рынглер. Нягледзячы на тое, што ў спектаклі "Барух Эмануэль" пануюць тры вобразы, ён хутчэй, будзе нагадваць монаспектакль. Усю моц акцёрскага пераўвасаблення, укаранення ў персанаж, мусіць прадставіць гледачу адзін з таленавітых купалаўскіх акцёраў А. Маўчанаў, які прайшоў кастынг у Швецыі і быў зацверджаны на ролю Баруха.

Адзначу, што з сённяшняга спектакля распачнуцца Дні тэатра Швецыі ў Купалаўскім тэатры. На спецыяльных літаратурных чытаннях прагучаць урыўкі з п'ес К. Фрасцэнсон, С. Ларсана, А. Тротцыг.

**В. Б.**

*НА ЗДЫМКУ: акцёр А. Маўчанаў.*



# ЧАРОЎНЫЯ ВОБРАЗЫ, КАЗАЧНЫ СВЕТ

Горка ўсведамляць, што ўжо няма болей з намі Соф'і Шыбекі — жанчыны, якая прысвяціла жыццё не толькі сваёй сям'і, але і мастацкаму слову, літаратуры. Яна аўтарка некалькіх кніжак паэзіі. І вось — ужо пасля яе смерці — выдадзены яшчэ адзін яе паэтычны зборнік. "Я соткана из родников..." — так прачула заявіла пра сябе паэтэса. Метафарычная і казачна прыгожая лірыка С. Шыбекі ўражвае высокім інтэлектуальным узроўнем і тонкасцю ўспрымання свету. У лірычнай гераіні — пяшчотная і кволая душа, якая адгукаецца на ўсе навакольныя падзеі.




Містычныя матывы ў творчасці паэтэсы пераважаюць, складаюць яе аснову. Гэта і звароты да нейкіх патаемных вышэйшых сіл, што кіруюць намі, і дыялогі з сабою,калі душа паўстае як бы ў дзвюх іпастасях — яна і яе двайнік-суразмоўца. Ва ўсім дамінуе адно: выразнасць і дакладнасць малюнка, уменне паказаць нейкую падзею толькі накідам, штрыхом. Характар паэтэсы паўстае перад намі з яе радкоў цэльным і даволі арыгінальным. Але ўсё ж глыбіннае пачуццё, якое рухае лірычнай гераіняй і вядзе яе некуды па адной толькі ёй вядомых шляхах, — пачуццё самоты і безабароннасці перад жыццём.

Чытаючы вершы С. Шыбекі, бачыш увесь нядоўгі шлях, які прайшла паэтэса: нарадзілася ў 1948-м, памерла ў 2002-м. Не так ужо і шмат гадоў было адпушчана ёй лёсам. Яна паспела выказаць сябе ў паэтычным слове, распавесці сваму чытачу пра ўсё, што з ёю адбывалася. І нас хвалюе і захапляе яе пранікнёная лірычная споведзь, поўная светлых пачуццяў, надзей, радасных спадзяванняў, успамінаў аб перажытым, ціхіх згадак пра былое каханне. Гэта прафесійна напісаныя радкі, прычым паэтэса паспела сама сфарміраваць са сваіх вершаў чатыры цыклы, у якія ўвайшла лірыка рознага зместу. Першы з іх змяшчае творы аб прызначэнні паэта і паэзіі і называецца вельмі сімвалічна — "Мой близнец". У другім, "Забавы", valadaраць пачуцці: драматычныя, вострыя. Два апошнія цыклы, "О любви" і "Дочка", выклікаюць супярэчлівыя асацыяцыі. Лірычная гераіня не ведае, што такое спакой, і гэты яе настрой перадаецца чытачу, які пачынае пакутаваць ад чужога болю і радавацца "не сваёй" радасцю. Усё ж такі былі ў жыцці паэтэсы шчаслівыя хвіліны — звязаныя з нараджэннем дачкі, захопленасцю каханнем...

Крытыкі адзначаюць народна-песенную прыроду таленту паэтэсы, стылістычную разнастайнасць яе творчасці. Вобразнасць і асацыятыўнасць — гэта таксама характэрныя рысы паэзіі С. Шыбекі.

Такою і засталася ў памяці тых, хто яе ведаў, гэтая не зусім звычайная жанчына, якая пісала вершы. Жывая і энергічная, як і яе паэзія...

С. Я.



# ПРА НІЛА ГІЛЕВІЧА І МІКОЛУ АЎРАМЧЫКА

Калі ў першы дзень восені ў мяне спыталі, ці чытаў я ў "Народнай волі" прызнанне Ніла Гілевіча ў аўтарстве "Сказа пра Лысую гару" *("дык нейкіх год праз дваццаць сем раскажа ўсё")*, мне адразу стала не па сабе. Гэтак, памятаю, было і тады, калі падшпаркам упершыню дазнаўся ад старэйшых вясковых пашавэлкаў адкуль я насамрэч з'явіўся на гэты свет...

Я даўно ўжо не чытаю "Народную волю", але тым разам усё ж купіў у кіёску ўчарашні нумар газеты. Напраўду, "стаяў" там пасярод дадаткукладыша, нібыта ўбранзавелы, Ніл Сымонавіч Гілевіч ледзь не ў поўны свой рост...

О, як доўга, з якой цікавасцю ды імпэтам шукалі мы ўсім літаратурным кагалам і не знаходзілі аўтара! А мо таму і не знаходзілі, што не хацелі яго выкрыццяа, бо таямніца ананімнасці заварожвала і не давала дарэшты згаснуць прыцягальнасці гэтага па-раблезіянску гумарнога тэксту.

І вось, на табе!

Да таго ж, ніколькі не камплексуючы, аўтар сам, не сыходзячы з "месца злачынства", пачынае даваць ацэнку мастацкім якасцям свайго "Сказа...". Ужо і прыпомніць цяжка, калі і хто ў друку гэтак узвышаў уласнае пісанне. Нераўнуючы хіба, як адзін з герояў гэтай жа, яшчэ нядаўна ананімнай, паэмы:

*— Ну, не кажыце: гной няроўны.*
*Найлепшы той, што зробіш сам.*
*Бо ён жа твой, уласны, кроўны,*
*Як твор, які ты напісаў.*

*"Гэта занадта значны твор у маёй біяграфіі"*, піша Ніл Сымонавіч і, як ні дзіўна, змушае пэўную частку прыхільнікаў сваёй паэзіі верыць гэтаму. Я ж паасцерагуся, бо маю зусім адваротную думку ад большыні яго чытачоў. Асабіста для мяне значнасць творчага плёну Ніла Гілевіча ляжыць у іншай плоскасці яго таленту. Але то мой погляд. Навязваць яго нікому не збіраюся.

Шмат хто сёння з уласнай патрэбы і кан'юнктурных палітычных патрабаванняў часу пачынае спасылацца на вусныя выказванні Васіля Быкава. Можа таму, што тыя выказванні ўжо ніхто не можа абвергнуць? Вось і Ніл Сымонавіч памятае, як вялікі пісьменнік пахваліў яго за само сабой зразумелае аўтарства "Сказа..." *("Ну але ж і малайчына!..")*; толькі хто ведае, што Васіль Уладзіміравіч меў на ўвазе, кажучы тое: сам факт смеласці ў высмейванні калег-лысагорцаў ці яшчэ што, аднак, сам Ніл Сымонавіч, не міргнуўшы вокам, заяўляе нам, што тым самым "ён (Васіль Быкаў — **Л.Г.**) *дае паэме высокую ацэнку"*. Не кажу ўжо пра "драбнейшую" газетную высакапарнасць Ніла Гілевіча адносна свайго твора...

Альбо, што азначае гэткае яго ціхае "поползновение" на дысідэнцкія лаўры: *"Што ж выходзіць? У Беларусі паяўляецца дысідэнцкая літаратура? Такога ў нас яшчэ ніколі не было! Гэта ў Расіі ўжо адбыўся суд над Бродскім, над Сіняўскім і Даніэлем, ужо ваўсю бушаваў яшчэ не высланы за межы краіны Салжаніцын... Але каб у нас — у Беларусі?"*

Падтэкст улаўліваеце? Во як! Але пералічаныя вамі творцы, шаноўны Ніл Сымонавіч, не дапускаліся да Саюза савецкіх пісьменнікаў і мерзлі "в местах не столь отдаленных" не за **смехатворныя** рэчы. Вы ж, якраз наадварот, напісаўшы "Сказ пра Лысую гару", неўзабаве ажно на дзесяць гадоў *селі* ў крэсла першага сакратара праўлення СП БССР (1980-1989гг.)! Былі абраныя кіраўніком арганізацыі тых самых пісьменнікаў, якіх так ярка высмейвалі ў сваёй паэме! Ведалі б яны, хто імі кіруе! Літаратары, аднак, лепш жыць не сталі, і калі б не добра ўгноеныя грады на Лысай гары, наўрад ці напісалі б яны нават тое, што ўсё ж напісалі...

А пра грамадзянскую смеласць па вялікім рахунку і казаць няма чаго. Нездарма, мусіць, Мікола Аўрамчык у "Дзеяслове" прагаварыўся-зазначыў: *"Адразу ж зарыфмавалі:*

*Паколькі проза не даецца,*
*Дык сакратар СП Ткачоў*
*Уцёк на ўчастак выдавецтва,*
*Сказаўшы: — Прэч ад стукачоў!*

*Праўда, потым пабаяліся, што надта разззлуем "ахоўнікаў парадку" — і "стукачоў" замянілі "смаркачамі", хоць ведалі, што "смаркачы" тут зусім недарэчы"*.

Не, Бог бачыць, я не з тых, хто хоча прынізіць аўтара ці ягоны "Сказ..." *"З самага пачатку*, — кажучы словамі Васіля Зуёнка, — *я ўспрымаў "Сказ пра Лысую гару" як твор чыста "цэхавага" прызначэння і ўжытку: парагаталі самі з сябе — і на тым... Да гэтага падштурхвала і такая акалічнасць: людзі (найбольш з пісьменніцкага асяроддзя, у іншых рэспубліках, скажам), якія не ведалі асабіста "дзеючых асоб" лысагорскай паэмы, часам ніякавата ўсміхаліся: з чаго б гэта мы так рагочам? (...) Аднак — шляхі мастацкага твора, як і шляхі боскія, — "неисповедимы"... Бывае, піша чалавек "нятленку", на вякі, а ўсё зводзіцца на "пшык" — адным днём. А бывае, робіць нешта як бы між іншым, як забаўку, а здараецца тое, што адбылося з лысагорскай паэмай: яна атрымала шырокі чытацкі рэзананс. (...) "Сказ пра Лысую гару" застанецца вясёлым і сур'ёзным мастацкім дакументам свайго часу..."*

Праўда таксама і тое, як пісаў нябожчык Георгій Колас, што *"многія пісьменнікі ўвойдуць у гісторыю літаратуры толькі дзякуючы гэтай паэме. Аўтар дагэтуль баіцца, што разарвуць. (...) Трошку яго бянтэжыць заключны раздзел, каб не прыйшлося апраўдвацца. Як некаторым пісьменнікам за свае "паслухмяныя-падданыя" творы."* І дадае (адносна, дарэчы, упомненага вышэй "поползновения"): *"Калі хто вам раскажа пра тое, як у ЦК шукалі аўтара, нават хто займаўся гэтай справай, калі хто раскажа, як з органаў прыходзілі шрыфты машынак у рэдакцыі правяраць, — звярніце ўвагу на гэтага чалавека як на патэнцыяльнага аўтара"*.

СКАЗ
ПРА
ЛЫСУЮ ГАРУ

Поўны тэкст
у пачатковай аўтарскай
рэдакцыі,
завешчаны як канапічны
для магчымай у будучым
публікацыі

МІНСК
Апошняя трэць
20 стагоддзя

23.X.2002.

Адзін з аўтараў.

І напраўду, хіба савецкія "шэрлак холмсы" калі-небудзь каго пазараз патрэбнага ім не знаходзілі?! У скрайнім выпадку хоць невінаватага, але знайшлі б. Загады выконваліся адмыслова. Але які дурань будзе заводзіць справу на аўтара, у творы якога свае сваіх на горкі здор збіваюць, а сам аўтар, як бы між іншым, таму начальству яшчэ і рэверанс адвешвае, маўляў, малайцы-партыйцы, бо:

*Калі б тых гіцаляў хоць зрэдку*
*Не асаджалі пугаём —*
*Дык без указу, без дэкрэту,*
*Глынулі б бедную жыўём.*

(Размова пра мову, вядома.) Праўда, згодна "Народнай волі" ў новай рэдакцыі "Сказа..." гэтай страфы ўжо няма. Згінула і яшчэ тое-сёе. А

**Лімаўцам не ў навіну атрымоўваць ананімныя творы. Тое-сёе ў свой час, што было падкінута, друкавалася ў нашым штотыднёвіку. І цяпер, калі падняласяцыня новая "лысагорская хваля", нейкі Вядзьмак Лысагорскі не застаўся ўбаку ад шуміхі вакол аўтараў "Сказа".**

**ВЯДЗЬМАК ЛЫСАГОРСКІ**

•

*І ў нас быў час, быў век, была эпоха*
*І мы гадалі: "Хто ж такі Вядзьмак,*
*Што не збаяўся ні людзей, ні Бога*
*І, рыфмамі асыпаўшы пісак,*
*Схаваўся, як у бульбу, за псеўдонім.*
*Гадалі ўсе, злаваліся і ўсё ж*
*Удзячнымі былі, што хоць успомніў*
*Радком адным, які вастрэй за нож.*
*Гады ішлі, нібыта азіяты,*
*Знішчаючы пісакаў на хаду.*
*І хто з нас і чаго застаўся варты*
*Мы ведаем, як Маркса бараду.*
*Здавалася, што хто пісаў паэму гэту*
*Не знойдзем ні за якія рублі,*
*Бо ў Свіслач канула, нібыта ў Лету,*
*Машынка й толькі бурбалкі пайшлі.*

*І хоць з'яўляліся здагадкі-мроі*
*Аб аўтарах, што склалі "Лысы сказ",*
*Ды толькі ўсё ж галоўныя героі*
*Дзесяткі год за нос вадзілі нас,*
*І мы за імі весела хадзілі*
*І кожны думаў: "Знаю толькі я*
*Хто напісаў наш Сказ..." і мы любілі*
*Усіх, нібыта ў небе жураўля.*
*І раптам тут прыгожую легенду*
*Аб нашай слаўнай "Лысае гары"*
*Стапталі, быццам фінішную ленту,*
*Не злоўленыя намі ведзьмары,*
*Што аб'явіліся і сталі разбірацца*
*Хто з іх важнейшы, хто з іх больш пісаў*
*І права Лысагорскім называцца,*
*Як права першай ночы, зваяваў.*
*І ўжо адзін аднога словам свеціць*
*І сведкаў пачынаюць заклікаць,*
*А сведкі тыя ўжо не ў нашым свеце*
*І сведкі, як куплёныя, маўчаць...*
*Дзядкі мае, Гілевіч і Аўрамчык,*
*Кідайце непатрэбны балаган!*
*Паэзія—не лысагорскі храмчык,*
*Паэзія...*

**На гэтым верш Ведзьмака Лысагорскага мы абрываем— няхай застанецца таямніцай не толькі тое, хто гэты твор напісаў, але і што напісана далей...**

ў "Другім і апошнім папярэджанні падробшчыкам" радкі:

*"А я ў камуны сімвал веру, —*
*Якому век не змізарнець"*

перароблены адносна стылю апазіцыйнай сучаснай газеты:

*"А я ў свабоды сімвал веру, —*
*Якому век не змізарнець".*

Як проста: паправіў адно слоўца — і ты зноў, як той Чапаеў з бульбай на стале, "впереди всех на белом коне"...

Дарэчы, а ці меў аўтарскае права Ніл Гілевіч адзінаасобна падпісвацца пад выдрукаваным у "Народнай волі" тэкстам "Сказа...", паколькі такое "самаўпраўства" цягне на плагіят. Бо вось жа цытую самога Ніла Гілевіча з яго артыкула ў той жа газеце "Як быў напісаны "Сказ пра Лысую гару", дзе ён, памяркоўна-інтэлігентна прынізіўшы сатырычны талент Міколы Аўрамчыка, усё ж змушана зазначае: *"Каб не пакрыўдзіць сябра, я прыняў прапанаваныя ім строфы ў раздзел "Будаўніцтва", але тут жа істотна іх перарабіў, перакантаваў на свой лад, перш за ўсё — інтанацыйна-рытмічна. (...) Пазней я пастараўся, наколькі можна было, вызваліць тэкст паэмы ад такога эмацыйнага, нейтральнага баласту, які нават для пісьменніцкага капусніка малапрыгодны".*

Дык усё-ткі ж *"прыняў прапанаваныя ім строфы"*, няхай сабе і *"перарабіў, перакантаваў на свой лад"* чужое. А хто ведае *"наколькі можна было"* ўвогуле вызваліцца ад тэкстаў сааўтара?

Аднак пакінем вырашэнне гэтай праблемы Нілу Сымонавічу і Міколу Якаўлевічу. Шкада толькі, што, будучы сябрамі, і схаўрусаваўшыся аднойчы ў адзіны аўтарскі калектыў "смеху дзеля", сёння, не вытрываўшы пераменаў часу, яны на схіле жыцця разыдуцца варагуючымі і азлобленымі людзьмі.

Цікава, а калі б у свой час, скажам, Ільф і Пятроў пачалі аспрэчваць "аб'ёмы і якасць" зробленага кожным з іх паасобку, то колькі б "крэслаў" з "дванаццаці" ацалела б на сёння ў рускай класічнай літаратуры?! Баюся, тады не знайшлося б на што сесці ні аднаму з аўтараў...

Найлепш пра ўсё гэта напісаў яшчэ ў 1995 годзе паэт Васіль Макарэвіч у часопісе "Крыніца": *"калі б "Сказ..." напісаў адзін аўтар, то далібог, ён не ўтрымаўся б, не саўладаў бы з сабой, а прылюдна ўголас заявіў бы: "Таварышы, усё тое, што напісаў я дагэтуль, глупства. А вось "Сказ..." я лічу сваім галоўным творам, тым творам, да якога я ішоў гадамі, а таму прашу забыць пра тое, што я пісаў раней, і лічыць мяне аўтарам гэтай паэмы!" Упэўнены, што так бы яно і было на самай справе, калі б аўтарам "Сказа..." быў адзін чалавек. Бо гэта, як бы хто і што ні думаў, а маленькі шэдэўр, у нейкай ступені раўназначны "Тарасу на Парнасе". І за яго можна надаваць творцу, калі б ён, паўтараюся, быў адзін, званне народнага паэта. Але гэты твор, пэўна ж, пісалі некалькі чалавек, таму няма асаблівай патрэбы заяўляць ці аб'яўляць, хто і як стварыў гэтую паэму. Яно і зразумела! Славу паміж сабой не дзеляць, яе можна толькі заслужыць. Бо нікчэмны гэта занятак — дзяліць тое, што не паддаецца ні вазе, ні меры. Няхай жа твор і застанецца ананімным! Я ўпэўнены, калі б раптам аб'явіліся аўтары гэтай унікальнай паэмы, яна адразу многае страціла б.*

*Не, не трэба адкрывацца аўтару ці аўтарам гэтага маленькага шэдэўра, якая б спакуса ні падштурхоўвала іх зрабіць гэткі захад. Няхай "Сказ пра Лысую гару" застаецца ананімным творам! Ад гэтага ён толькі выйграе, будзе па-ранейшаму прыцягальным, цікавым і загадкавым!"*

На жаль... А шкада.

І як было не прыслухацца да сваіх жа ўласных "прароцтваў":

*Пакуль не станем як належыць*
*Цаніць сумленнасць у сабе —*
*Вядзьмак не кіне нас drапежыць:*
*Не гэты — іншы дадзяўбе.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**УРАЖАННЕ**

"Не долго думая, они осторожно подкрадываются к беспомощному Янке, и пускают в дело излюбленное оружие — ноги. Пинают его и пинают, пинают и пинают... Купала молчит".

Коратка пра сам твор. Пачнём з дзеючых асоб, іх няшмат: муза паэта, чэкіст, палкоўнік КГБ, шэсць пісьменнікаў, жонка аднаго з пісьменнікаў, жабрак і ўласна Янка Купала (апошняга можна аднесці хутчэй да "бяздзеючых" асоб; рэкамендую,

# НЕАДУШАЎЛЁНЫ ПАЭТ

Цяжка быць геніем. Разам з найвялікшым скарбам, што наканаваў табе лёс, ты мусіў займець бясконцыя клопаты па развіцці свайго таленту. На цябе цісне абавязак перад нашчадкамі, якім трэба пазнаёміцца і захапіцца тваім талентам. Цябе паўсюль чакаюць розныя Дантэсы і Мартынавы. Ты мусіш быць асцярожным. Геній — гэта заўсёды новае, а людзі цяжка прызвычайваюцца да нечага новага. Яны не так зразумеюць, няправільна патлумачаць, перавярнуць дагары нагамі. Асабліва геніям не шанцуе на крытыкаў.

Ведаеце, непрыемна адчуваць сябе меnавіта такім крытыкам. Але лепш застацца сумленным чалавекам і шчыра прызнацца: не разумею, не прымаю — чым гнацца за кожным новым павевам, жадаючы застацца ў гісторыі першаадкрывальнікам таленту.

У выпадку з Рыгорам Цісецкім мяне не прывабліваюць гэтыя лаўры, няхай яны застануцца ў Ані Шадрыной, што паўтара гады таму надрукавала інтэрв'ю з ім, назваўшы яго вундэркіндам, між іншым зазначыўшы, як ён умее апускаць "долу пяшчотныя вейкі".

Але вядомым Цісецкага зрабіла не гэтае інтэрв'ю, а нядаўнія не зусім пэўныя чуткі пра атрыманне ім літаратурнай прэміі фонду Германа Гесэ за п'есу "Нямы паэт", прысвечаную Янку Купалу. Мне зразумела, што Рыгор Цісецкі — юны, напорлівы аўтар, маладосцю і свежасцю зіхацяць ягоныя творы, а ягоныя радыкалізм і жорсткасць могуць нават імпанаваць. Я вось толькі сумняваюся, што журы (калі такое ўвогуле існуе, канкрэтных звестак пра прэмію імя Гесэ няшмат і вядомы яны толькі са словаў самога Цісецкага) зрабіла б такую ласку гэтай п'есе, калі б галоўным героем там быў, скажам, Герман Гесэ. Між іншым аўтар, наколькі я зразумеў, прэтэндуе і на гэтае мастацкае абагульненне.

дарэчы, тым тэатральным калектывам, што возьмуцца за пастаноўку п'есы рабіць выканаўцам ролі Купалы манекен — гэта гуманна ў адносінах да акцёраў). Сама п'еса, невялікая па памерах, гэта некалькі абразкоў, дзе кожны з вышэй азначаных нешта патрабуе ад паэта, выказвае да яго сваё стаўленне, нейкім чынам за ягоны кошт самасцвярджаецца. Паэт ніяк не рэагуе. Па ходзе аўтар дапускае шэраг антыкамуністычных, антыпісьменніцкіх і антысеміцкіх выказванняў, на якія яго спакусіў шаснаццацігадовы ўзрост. Апагеем п'есы можна лічыць культавы момант успорвання жывата Я. Купалы. Трэцім пісьменнікам. Гэта, аднак, не акт вандалізму, а своеасаблівы літаратуразнаўчы эксперымент, мэтай якога пошук Купалавай душы. Не знайшлі... А гэта значыць, Я. Купалу не зразумелі. Я мяркую, што не зразумелі Я. Купалу мы ўсе. І сваёй п'есай Р. Цісецкі паказвае нам, якім чынам Я. Купала адчувае ўсё гэта наша лжывае разуменне.

— Смелы ўчынак! — захапіўся мой сябра, журналіст Павел Свярдлоў.Сапраўды, тут патрэбна мужнасць — пісаць такое, ведаючы, якая хваля гневу павінна на цябе абрынуцца. Але зусім па-іншаму мужным быў, скажам, Восіп Мандэльштам, калі пісаў верш пра "Крамлёўскага горца", зусім па-іншаму быў мужным Аляксандр Салжаніцын са сваім ГУЛАГам. Іх мужнасць грунтавалася на неабходнасці выказацца, тым больш, што гаварылі яны пераважна не ад сваёй асобы, а за мільёны тых, хто баяўся ці не здолеў выказацца. Што ж стаіць за мужнасцю Цісецкага, што ён ідзе на вельмі рэзкае і непаважлівае адлюстраванне культавай для Беларусі асобы. Танны эпатаж, "сіндром праўдаруба", асабісты разлік?

Я спадзяюся, элементарная адсутнасць жыццёвага вопыту...

У адным з інтэрв'ю Рыгор прызнаўся, што на напісанне сцэны з успорваннем жывата яго натхніла наведванне суполкі маладых літаратараў пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. У свой час (чатыры гады таму) я таксама наведваў гэтую суполку. Я згодны з уражаннем, якое вынес адтуль Р. Цісецкі, але яно не вартае мастацкага абагульнення, бо я знаёмы і з тымі беларускімі літаратарамі, якія не сталі б успорваць жывот нават самому спадару Цісецкаму, каб даведацца, ці ёсць у яго сэрца, што ён апісвае такія рэчы! Жадаю Рыгору пашыраць кола сваіх знаёмстваў, гэта павінна станоўчым чынам адбіцца і на ягонай творчасці.

Я не сеў бы за напісанне гэтага артыкула, калі б п'еса Р. Цісецкага была цалкам пустая. У ёй прысутнічае думка, тая самая, якую і адзначыла журы прэміі фонду Гесэ, а яно (журы) знаходзілася пад ціскам уласных эмоцый. Генію вельмі цяжка знайсці паразуменне са сваімі сучаснікамі, нават са сваімі нашчадкамі. Звычайна творчасць генія становіцца падставай для шматлікіх інсінуацый і спекуляцый. І часам вельмі цяжка вылучыць самога паэта з шалупіння складзеных пра яго стэрэатыпаў. Але шлях, якім увасобіў падобную ідэю Цісецкі памылковы. Асоба Купалы, нават калі ім называецца тая частка дэкарацый, якую ўвесь час матлошаць, б'юць і рэжуць, настолькі харызматычная, што ўся ўвага гледача адразу будзе звернута на сам вобраз асобы і на факт ягоных пакутаў. Усё астатняе можа прайсці незаўважаным. Такім чынам Цісецкі сам становіцца ў чаргу літаратараў, якім было б цікава даведацца, што там з душой песняра. Ідэальна было б увогуле зняць Купалу з ліку дзеючых асобаў, але тады адразу парушылася б ягоная псеўдадэкадэнцкая эстэтыка, якая для аўтара з'яўляецца творчай платформай.

Р. Цісецкі валодае вельмі моцным унутраным стрыжнем, які дапаможа яму з часам развіцца ў даволі цікавага літаратара. Вось толькі б шлях, абраны юным вундэркіндам, шлях яркіх фокусаў, нечаканых эфектаў не завёў бы яго ў тупік. Форма абумоўлівае змест, уплывае на яго, змяняе, а яскравы фокус можа толькі асляпіць і важная думка пройдзе незаўважнай. Не хацелася б, каб і творчасць Р. Цісецкага запомнілася не глыбокім зместам і прагай да ісціны, а чарговым літаратурным скандалам...

**Алекс СТРЭЛ**

**НАШЫ ВЫДАННІ**

# "НЁМАН" № 9

Выйшаў з друку вераснёўскі нумар часопіса "Нёман". Пачынаецца ён нізкай вершаў Міхася Башлакова "Зеленая осень". Восеньская тэматыка ў творах паэта арганічна спалучаецца з тэмамі Радзімы, любові, роздуму аб імклівасці і вечнасці жыцця. Пераклаў вершы на рускую мову Андрэй Цяўлоўскі. Паэзія прадстаўлена таксама змястоўнымі падборкамі Барыса Беляжэнкі і Аляксандра Стрыгалёва. Прадстаўнікі розных пакаленняў, яны абодва занепакоены рэаліямі сённяшняга дня, вечным рухавіком сучаснасці — Душой чалавека. А яшчэ (у рубрыцы "Впервые в "Нёмане") дэбютуюць з вершамі Тацццяна Кавалёва з Мсціслаўля і Міхаіл Яковін ды Вячаслаў Данілаў з Мінска.

У раздзеле "Проза" друкуецца заканчэнне вострасюжэтнага трылера брытанскага пісьменніка Фрэнсіса Кліфарда "Отель "Шелли". Змешчана і заключная частка аповесці пісьменніка з Баранавічаў Аляксандра Галькевіча "Дети до шестнадцати". Твор прысвечаны праблемам сучаснай моладзі, узаемаадносінам бацькоў і дзяцей. У апошнія гады вядомая паэтэса Раіса Баравікова плённа працуе ў галіне прозы. "Нёман" знаёміць чытачоў з трыма апавяданнямі пісьменніцы ў перакладзе з беларускай мовы Марыі Рудовіч і Алены Касцюк. Не пакіне абыякавымі чытачоў і апавяданне Тацццяны Дашкевіч "Портрет любимого мужа".

З гэтага нумара "Нёман" распачынае новую рубрыку — "Наша армия". Мэта — шырэй распавядаць пра справы вайсковыя, больш актыўна садзейнічаць выхаванню патрыятызму, гатоўнасці маладых абараняць сваю краіну. Адкрывае рубрыку гутарка Ніны Чайкі з міністрам абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнікам Леанідам Мальцавым "Армия — оплот нашей независимости". Публіцыстыка прадстаўлена таксама вострым артыкулам Івана Капыловіча "Не нужно бояться Правды". Пісьменнік разважае пра складаныя гістарычныя і сучасныя тэмы, адгукаючыся на публікацыю рамана Эдуарда Скобелева "Завещание Сталина". У артыкуле "Два маршала" Уладзімір Шулякоўскі расказвае пра маршалаў Савецкага Саюза С. Ф. Ахрэмава і Д. Ф. Усцінава. Аўтар прыводзіць нямала цікавых і адметных фактаў з жыцця і дзейнасці вядомых военачальнікаў, якія карысталіся вялікай павагай у народзе і сярод вайскоўцаў. Дарэчы, у гэтым годзе першаму споўнілася б 80, а другому — 95 гадоў з дня нараджэння. Іх лёсы былі звязаны з Беларуссю.

Адгукнуўся "Нёман" і на такую важную падзею ў культурным жыцці нашай краіны, як стварэнне і выхад на экраны мастацкага фільма "Анастасія Слуцкая". "Не часто мы у памяти в госцях" — так называюцца нататкі дацэнта БДУ Ніны Фральцовай пра новую работу кінастудыі "Беларусьфільм".

У рубрыцы "Литературная критика" Васіль Макарэвіч выступае з артыкулам "А в поле верба...", пазначаючы яркія штрыхі да творчага партрэта Уладзіміра Карызны. Пра творчасць паэта Змітрака Марозава, першага ў еўрапейскай літаратуры аўтара вянка вянкоў санетаў, разважае ў артыкуле "Сеятель" доктар філалагічных навук, прафесар Вячаслаў Рагойша. Яўген Каршукоў рэцэнзуе новую кнігу паэзіі Васіля Жуковіча "У храме характва і смутку".




Рубрыка "Из почты журнала" знаёміць з артыкулам Івана Ваўранцюка "Горькие уроки истории", які аўтар рэагуе на выхад кнігі "Подвиг коммунистической партии Западной Белоруссии" (аўтары В. П. і В. В. Ласковічы). Сягоння, калі афармляецца Саюз з брацкай Расіяй, "Нужно учитывать все горькие уроки истории, чтобы от принятых решений имели пользу простые люди обоих государств", — слушна заўважае аўтар.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# САПРАЎДНАЯ ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі 15 верасня пачала сваю работу выстаўка "Кніга Беларусі: повязь часоў". Яна прымеркавана да III Міжнародных Кнігазнаўчых чытанняў. На выставе прадстаўлены дасягненні даследчыкаў розных краін па гісторыі беларускай кнігі і кнігазбораў. Выстаўка прызначаецца як спецыялістам, у бібліятэчнай галіне, так і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй духоўнай культуры нашай краіны.

Выстава ўключае раздзелы: "Бібліяграфія кніжных помнікаў Беларусі", "Беларуская кніга ў часе і прасторы", "Беларуская рукапісная кніга", "Спадчына Францыска Скарыны", "Кніга беларускага Рэнесансу", "Беларуская кніга XVIII — пачатку XX стст.", "Сучасная беларуская кніга", "Беларускія гістарычныя кнігазборы". У склад экспазіцыі ўваходзяць працы вядомых беларускіх навукоўцаў: Г. Галенчанкі, І. Саверчанкі, А. Пяткевіча, Ю. Лабынцава, У. Агіевіча, А. Яскевіч, В. Тумаша і многіх іншых.

З 15 верасня там жа, у Нацыянальнай бібліятэцы, працуе тэматычная кніжная выстаўка "Сучасная бібліятэчная справа: тэорыя і практыка". На ёй прадстаўлена літаратура з фондаў бібліятэкі, выдадзеная за апошнія тры гады: прафесійныя выданні больш чым на 10 мовах свету, кнігі па розных галінах бібліятэчных ведаў. Шмат прафесійных перыядычных выданняў, 60 з якіх — на замежных мовах. Гэтая выстава размешчана ў лекцыйнай зале галоўнага корпуса бібліятэкі (Чырвонаармейская, 9).

Як праяву добрай традыцыі ўспрынялі чытачы бібліятэкі Трэція Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні, якія прайшлі 16—17 верасня ў Нацыянальнай бібліятэцы. Падчас іх правядзення разглядаліся праблемы кнігазнаўства, пытанні гісторыі кнігі і інш. Тэма сёлетніх Чытанняў была сфармулявана як "Кніга Беларусі: повязь часоў". Яе падтрымала Двухбаковая беларуска-польская камісія па сумеснай культурнай спадчыне, што працуе пры Дэпартаменце па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі. У ліку іншых арганізатараў Чытанняў — Міністэрства культуры РБ, Беларуска-польская кансультацыйная камісія па справах гісторыка-культурнай спадчыны, Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Матэрыялы Трэціх Кнігазнаўчых чытанняў будуць выдадзены асобным зборнікам.

СБС

# НАВЕДАЎ СТУДЭНТАЎ

11 верасня студэнтаў-першакурснікаў па спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура. Журналістыка" факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка наведаў паэт і журналіст Навум Гальпяровіч.

Вядома ж, журналістаў-пачаткоўцаў перш за ўсё цікавіла магчымасць працаваць на радыё. Як высвілася, не мае літаральна кожны, галоўнае — добра валодаць беларускай мовай, мець свежыя і арыгінальныя ідэі. А яшчэ, безумоўна, настойлівасць, бо часам сарамлівых пачаткоўцаў прыходзіцца па некалькі разоў выпраўляць на заданне.

Навум Гальпяровіч супрацоўнічае з Беларускім радыё ўжо не першы дзесятак гадоў. Доўгі час ён быў уласным карэспандэнтам па Віцебскай вобласці. Тады Гальпяровіч наведаў ледзьве не ўсе вёскі Віцебшчыны, пазнаёміўся з мноствам цікавых людзей і... паспеў паспрыяць ратаванню Заходняй Дзвіны ад будаўніцтва ГЭС. Менавіта серыя рэпартажаў журналіста дапамагла адвесці экалагічную катастрофу.

Сёння, жывучы ў Мінску, Навум Гальпяровіч не парывае сувязяў з роднай зямлёй, асабліва з горадам маленства і юнацтва Полацкам. Так, нядаўняе свята "Дзень беларускага пісьменства", што прайшло там 7 верасня, адбылося па сцэнарыі, які распрацаваў Навум Якаўлевіч.

Але ж, вядома, не толькі размовамі аб журналістыцы была напоўнена сустрэча. Паэт прадставіў сваю новую кнігу "Святло ў акне".

Таксама ў сустрэчы прынялі ўдзел маладая паэтэса Таццяна Сівец і студэнтка 5 курса гістарычнага факультэта Кацярына Цішкевіч, якая праспявала кранальныя песні на вершы нашага выкладчыка і паэта Міколы Шабовіча, арганізатара гэтай імпрэзы.

Сяргей ТРЭФІЛАЎ,
студэнт 104-й групы.



**Уладзімір СЦЯПАН**



## ВЯСНА—ЛЕТА

●

*Штоміг рознае*
*звыкнуцца немагчыма...*
*О неба, неба!*

*Чаму мне? Кінуў*
*папяровую ружу*
*вецер пад ногі.*

*Зусім бязмэтна*
*па ранішнім горадзе*
*іду ды іду.*

*Крышыць галубам*
*і сам есць чэрствы хлеб*
*жабрак пануры.*

*На Панікоўцы*
*цямнее гурба снега*
*на дне фантана.*

*Лепшыя радкі*
*нараджаюцца ў снах ... і*
*забываюцца.*

*Іржавы замок,*
*ад каго разбураны*
*дом ахоўваеш?*

*Мама, як анёл,*
*амаль бязважкай стала,*
*ходзіць бязгучна.*

*Прама на пляцы*
*букет бэзу наламіў*
*жабрак жабрачцы.*

*Нечаканы дождж...*
*гандляр-маладзён спехам*
*кніжкі хавае.*

*Раптоўны вецер*
*задзярэ спадніцы...*
*і супакоіцца.*

*Не магу заснуць —*
*на камара палюю*
*безпаспяхова.*

*Б'юцца, як людзі*
*маладыя вераб'і —*
*без дай прычыны.*

*Бяжыць насустрач*
*залаты на тле неба —*
*крыж пры дарозе.*

*Як на спатканне*
*да нябачнай рачулкі*
*іду праз туман.*

*Хто ж за туманам?*
*Сабака, ці чалавек?*
*Ціха сыходжу.*

*На ціхай рацэ*
*толькі з ім добра вудзіць —*
*ён глуханямы.*

*Вочы зamружу*
*сціснуся ў кулак, знікну...*
*Слухаю вецер.*

*Зусім бязмэтна*
*пазіраю на зоры*
*незлічоныя.*

*У рамцы за шклом*
*зжаўцелыя карткі —*
*сорак чатыры.*

*Гарачы пясок,*
*прахалодная вада —*
*як мала трэба.*

*Яшчэ й не стары,*
*а маленькі кручок ледзь*
*прывязаў... Сумна.*

*Да блізкай ракі*
*пад ціхім дажджом іду*
*з вудаю новай.*

*Жабку спалохаў.*
*Скочыла і паплыла*
*у чыстай вадзе.*

*Як пахне шчасцем*
*зялёнага аера*
*зломаны лісцік.*

*Не горшы занятак —*
*зялёны гарох лушчыць*
*цёплым вечарам.*

*Ліпеньскі ранак.*
*Бесклапотна думаю*
*пра бессмяротнасць.*

*Апошні чарвяк,*
*а я ўсё спадзяюся —*
*вось пашанцуе.*

*Хоць і не медаль —*
*гузік пазелянелы...*
*А я берагу.*

*Першы дзень жніўня.*
*З вудай іду да ракі,*
*як і ўчора.*

*З дачкой пад мостам*
*імклівых малькоў ловім*
*дзедавай кепкай.*

*Камарыны звон,*
*п'яная лаянка, смех —*
*вясковы матыў.*

*Куды ж ты бяжыш,*
*вірлівая яшчарка,*
*па пыльнай шашы?*

**Віка ТРЭНАС**



●

*даруй грахі мне, чужая святасць,*
*святло, прывабленае вагнём,*
*у вочы гледзячы вінавата,*
*упалы лашчыць цябе анёл.*
*а недзе ў нечых прыгожых снох*
*наплакаў возера зор трыснёг.*

●

*Няма нічога.*
*Ёсць толькі колер тваіх вачэй.*
*Маўчанне робіцца ўсё званчэй,*
*Вясновы ветрык як цёплы дотык.*
*Няма брыдоты.*
*Адно аблокі бягуць хутчэй,*
*Зямная крыўда з нябёс цячэ,*
*Я пазбаўляюся сноў употай,*
*Што будуць потым.*

●

*мой самотны задумлівы смех*
*засынае пад гушканні ветру*
*і зямлю працінае снег*
*і святлу далёка да свету*
*праспявай манатонны матыў*
*толькі ты толькі ты толькі ты*

●

**Ты пакліч мяне, пазаві.**
**Я. Янішчыц**

*Ты не кліч мяне, не заві*
*Памаўчы, зямля,*
*Зарасце павуціннем травы*
*Лёгкіх крокаў шлях*
*Паляцець на калючы дрот*
*Болем свет спавіць*
*Апячы брыдкім крыкам рот*
*Не мяне заві*

●

*ап'янелы ад суму*
*паэт любаваўся сабой*
*ён вясновым дажджом*
*па старонках чужых пацячэ*
*ты абернешся болем*
*і табою абернецца боль*
*цалавацца з пустэчай*
*нахабных вачэй*
*каб запомніць змярцвелыя рухі*
*забітай душы*
*каб знайсці,*
*дзе са шчырасцю ейнай знікае зіма*
*дзе чароўныя сны*
*не імкнуцца цябе задушыць*
*пошук шляху туды, дзе нікога няма*

## АНЁЛУ. БРАТУ

*У скронях Бога,*
*быццам кроў, пульсуюць*
*душы. Успамінаў*
*Прaданы смех,*
*і за Нішто ў вачах чужых*
*ізноў загіну.*
*Бягуць дажджы, і кроплі слоў —*
*палонныя*
*на доўгіх вейках.*
*З'явіўся час, любі сябе,*
*шукай сябе — у*
*новых леках,*
*У новых снох. Пакуль ты спіш,*
*Бог з неба*
*разлівае слоту.*
*Любіць цябе. Шукаць цябе.*
*Укрыжаваць*
*сваю самоту.*

## БЕЗГАЛОВЫ САНЕТ

*Не плачце... Не таму,*
*што слёз шкада*
*Бо не ад іх трава расце вясною*
*Узрошчаная сном і цішынёю*
*Сцякае з веяў марная вада*
*Не будуць болей сонечныя промні*
*Ружовыя ад шчасця і ад стомы*
*На твары палымнець*
*расталым снегам*

*Не плачце. Усміхаюся балесна*
*Я не таму, што хутка стану небам*
*Мне слёз шкада,*
*якім у зрэнках цесна*

## ТУЖЛІВАЯ БАЛАДА

*Паэтка параненым зверам глядзіць*
*на вясну*
*Маўклівыя дзверы*
*цябе не пакінуць адну*
*Дождж крапае часта*
*слязьмі невыноснага шчасця*
*Ты млееш ад шчасця*
*такое здараецца часта*
*Калі за вакном зграбны клён*
*, расхістаны і голы*
*Пяе непрыстойныя песні,*
*ты слухаеш голас*
*Табе падаецца,*
*ахвяра хваробы і стомы,*
*Што ён да драбнюткае ноты*
*знаёмы, знаёмы*
*Праменьчык, засохлы ад слоты,*
*знясілены — ты*
*Зіхоткай вясёлкай падхопіш*
*няхітры матыў*

## ПАМЯЦІ АНДРУСЯ БЕЛАВОКАГА

*/пepатвары ў мае слёзы гэтую смерць*
*я буду біцца з жыццём я буду гарэць*
*танклявая свечка*
*ў руках паўночных вятроў*
*крываўлю вусны свае, фарбуецца кроў*
*у колер бясхмарных нябёс,*
*і скрыўлены жах*
*бяжыць па вясновай траве*
*як па вострых нажах*
*калі ты дазволіш вятрам*
*у душы аслабець*
*ён прыйдзе каб больш не пакінуць*
*ніколі цябе*

## БЕЛЫ ПОПЕЛ

*я бегла па вясне, і плакаў боль,*
*апалаю чаромхай на траву*
*імкнуўшыся ўвесь свет*
*прыкрыць сабой*
*мне белы попел лёг на галаву*
*у зрэнках стомленых квітнее бэз*
*пустое зерне хутка прарасце*
*ці ёсць магчымым забіваць сябе*
*каб быць крывёю на чужой красе*

## БЕЛЫ БЭЗ

*маркотны вершык ціўкае ласкава*
*мой белы бэз забіты згорклай кавай*
*паэт аб кнігу вострыць кіпцюры*
*усе сцяжыны не вядуць у Рым*
*не будзе болей сонца прамянець*
*усе дарогі прыйдуць да мяне*

## РЭПЛІКА

# АПАФЕОЗ. БЕЗ ПАЛАНЕЗА

Ноч у журналіста была, як зазвычай, бяссонная: наведаўшы першы канцэрт новага сезона, журналіст мусіў здаць раніцай колькі радкоў у нумар.

Дзень выдаўся тлумны: вярсталі газету.

Вечар абяцаў завяршыць працоўныя суткі апафеозам: Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У.Байдава ўпершыню пасля летніх вакацый збіраў публіку на канцэрт. Назва канцэрта – "Апафеоз паланеза" – ужо з'яўлялася на старонках "ЛіМа", у нататках пра ўдзел выдатнага беларускага ансамбля ў XV Міжнародным фестывалі сучаснай музыкі ў Кракаве (гл. газету за 30 мая і 5 верасня).

Мінская прэм'ера праграмы, у якой своеадметна адлюстравалася гісторыя беларускага паланеза — ад старадаўніх узораў Я.Д.Голанда, М.Радзівіла, М.Кл.Агінскага да зусім свежых опусаў В.Кузняцова і Д.Лыбіна ў гэтым жанры, — была шчыра чаканая. І журналіста паклікала ў Залу камернай музыкі простае спадзяванне, што стомленасць адступіць, а да прафесійнага абавязку далучацца і цікаўнасць, і добрыя эстэтычныя ўражанні.

Залатую Горку журналіст штурмаваў, напэўна, пад нячутны акампанемент сакраментальнага "трэцяга званка", бо на парозе вестыбюля яго сустрэла ціішыня. А ў ціішыні – дзве супрацоўніцы філармоніі.

Журналіст быў пры камплекце рознакаляровых "корачак", што, як мінімум, пацвярджалі яго прафесійнае, абароненае адпаведным дзяржаўным законам, права на атрыманне "беспрашкоднага доступу да інфармацыі" і на безбілетнае наведванне філарманічных канцэртаў у Мінску. Пакуль тыя "корачкі"з нетраў кайстры даставаў, да білецёра падбеглі непунктуальныя (іх такімі транспартныя праблемы зрабілі!) меламаны. Прыдбалі параду: займаць у зале любыя свабодыя месцы — і паспяшаліся.

А журналіст уразшце пачуў-адкрыў нешта новае. Аказваецца, для дырэктара канцэртнай залы "ўсе пасведчанні – несапраўдныя". Падначаленыя ўспрымаюць гэтае меркаванне як загад, і таму патрапіць на канцэрт без білета можа толькі той, хто дамовіўся з дырэктарам асабіста і атрымаў адпаведны дазвол, наконт чаго кантралёраў папярэджваюць асобна. Наконт мажлівай прысутнасці 23 верасня прадстаўніка друку ў зале? Дырэктарскіх распараджэнняў не было...

Не маючы намеру ўсчынаць двубой ці скандал, журналіст, перапытаўшы: "Дык вы мяне па справах не пусціце?" — пажадаў сумленным і непахісным вартавым усяго добрага.

Вечар быў прыгожы, ціхі, цёплы –25-градуснае бабіна лета. У зале прыгожа гралі музыкі, гучалі прыгожыя паланезы, складаючы апафеоз жанру... Столькі прыгажосці наўкол, а сітуацыя – ну як жа так?! – непрыгожая атрымалася.

На месцы журналіста з "несапраўдным пасведчаннем" — С.БЕРАСЦЕНЬ

•

У мэтах павышэння ролі нацыянальнага кінематографа ў сацыяльным і культурным жыцці рэспублікі, падтрымкі таленавітых маладых кінематографістаў, павышэння мастацкага ўзроўню выпускаемай фільмапрадукцыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь сумесна з Беларускім рэспубліканскім саюзам моладзі і Беларускім саюзам кінематаграфістаў праводзяць Адкрыты маладзёжны конкурс на стварэнне кінапраектаў, прысвечаных нацыянальнай тэматыцы. Літаратурныя сцэнарыі мастацкіх фільмаў у 2-х экземплярах накіроўваюцца на адрас аргкамітэта да 25 кастрычніка 2003 г.: *рэдакцыйны аддзел (з пазнакай "Конкурс") Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм", вул. Ф. Скарыны, 98, 220098, г. Мінск.*

## КАНЦЭРТЫ

# ВЕРАСНЁВЫ ЎЗЛЁТ

***Дзіўнае пытанне ўспала раптам на думку. Чаму не памятаю штогадовых урачыстасцяў з нагоды адкрыцця філарманічных сезонаў у Зале камернай музыкі: абыходзіцца без цырымоній? Пэўна, заканчэнне чарговага сезона і пачатак новага тут пазначыць даволі складана, бо канцэрты ідуць амаль у рэжыме нон-стоп (надараюцца нават падчас летніх вакацый) і ці не кожны з іх сам па сабе ёсць урачысты рытуал — і для артыстаў, і для публікі.***

Так, імпрэзы на Залатой Горцы здатныя збіраць аншлаг. Яны, гэткія спадарожнікі-праваднікі ў развіцці нашага мастацкага досведу, вызначаюцца жанравай разнастайнасцю, не цураюцца эксперыментаў, часта прэзентуюць музычныя прэм'еры, знаёмяць з выканальніцкай творчасцю замежных гасцей, адкрываюць імёны... Як гэта важна сёння, калі канцэртнае жыццё ў сталіцы не сказаць каб цалкам паралізаванае, але вельмі хваравітае з-за адсутнасці Вялікай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі!

І як цудоўна, калі для вялікага мастацтва бывае дастаткова і маленькай залы. Ужо на пачатку верасня тут прайшло некалькі яркіх выступленняў гасцей Мінска. Ды сапраўднае адкрыццё канцэртнага сезона для заўсёднікаў філарманічнай Залы камернай музыкі адбылося, бадай, усё ж не ў першы восеньскі тыдзень, а крыху пазней — 18 верасня.

Кажуць, цудаў не бывае. Значыць, ёсць нейкі вялікі ды мудры найвышэйшы закон, паводле якога людзі-адзінкі, адасобленыя ў кругабегу будняў і, можа, нават між сабою незнаёмыя, сустракаюцца аднойчы ў агульнай музычнай прасторы, пражываюць разам некалькі агульных іррэальных імгненняў, гадзін, часін, каб зведаць-зразумець штосьці невымоўнае, прыналежнае да Сусвету і Вечнасці. Хіба не так было і ў той вечар, калі музыканты і публіка, самыя-самыя розныя людзі, адораныя чулымі ды відушчымі сэрцамі, разам стварылі атмасферу эмацыйнай цеплыні, светлага задумення, радасці жыцця?.. Зрэшты, невытлумачальны стан душы, якая, улучыўшыся ў чарадзейства гукаў, узлятае над будзённасцю.

Творы прадстаўнікоў італьянскага барока (Т.Віталі, Ф.Джэмініяні, А.Вівальдзі, Л.Бакерыні) і класічнага В.А.Моцарта, лідэраў нямецкага рамантызму (Ф.Шуберт, Р.Шуман) і генія XX стагоддзя А.Шнітке ўвасабляліся ў галасах інструментальных дуэтаў: скрыпкі — ды аргана, і клавесіна, і раяля; віяланчэлі — ды аргана, і раяля, і клавесіна. Вядомы мінскі музыкант Аляксандр Мільто годна трымаў чын "клавішніка-мультыінструменталіста", у ансамблі з якім выступалі юныя калегі — вучаніцы Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Ганна Маркава (клас скрыпкі Льва Куляшо-



# АДЧУЦЬ ЯЕ ЖЫЦЦЁ...

## ВЫСТАВЫ

***Сёння мінчукі і госці сталіцы маюць цудоўную магчымасць пазнаёміцца з творчым і жыццёвым шляхам легендарнай амерыканскай кіназоркі сярэдзіны XX ст. Мэрылін Манро, адбітых у фатаграфіях. З 17 верасня да 12 кастрычніка ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі працуе фотамастацкая выстава "Мэрылін Манро".***



Экспазіцыю, якую прадстаўляюць маскоўская галерэя "Дом Нашчокіна" і тэатральны праект "Віртуозы сцэны", *склалі больш за* 300 унікальных фотаздымкаў актрысы, кожны з якіх мае свой адметны каментарый аб захапляльных, рамантычных, а часам трагічных хвілінах жыцця Манро. Тут змешчаны не сціслыя біяграфічныя звесткі — цытуюцца словы самой актрысы, успаміны сяброў, каханых, калег. У большасці чорна-белыя фотаздымкі экспануюцца ў храналагічнай паслядоўнасці — на іх цалкам адлюстраваны лёс зоркі. Пачынаецца экспазіцыя з нешматлікіх дзіцячых здымкаў Мэрылін. Вось успаміны актрысы: "Аб маім дзяцінстве ніхто нічога не ведаў... Першыя ўспаміны?.. Барацьба за выжыванне... Я сапраўды незаконнанароджаная. Запісалі мяне як Норму Джын Бэйкер... Матуля была псіхічнахворая..."

Кар'ера Мэрылін пачыналася са здымак (часам у аголеным выглядзе) у глянцавых часопісах. І нават пасля ўдзелу ў кінастужках "Білет у Тамагаўк", "Усё аб Еве", "Асфальтавыя джунглі", прыгажуня застаецца незаўважанай. І толькі знаёмства са сваім першаадкрывальнікам Бэнам Лайанам, які і прыдумаў псеўданім Мэрылін Манро, прыносіць удачу "дзяўчыне з вокладкі". Бо праз шмат гадоў менавіта гэтаму чалавеку актрыса падорыць фотакартку з надпісам: "Ты знайшоў мяне, даў мне імя і паверыў у мяне, калі не верыў ніхто. Маі каханне і ўдзячнасць заўсёды з табой".

З гэтага часу жыццё Манро змянілася назаўсёды. Было ўсё: хвіліны надзей і расчараванняў, салодкай радасці і горкіх пакут, узлётаў і заняпадаў. І ўсё гэта цудоўным чынам адлюстроўваецца на фотаздымках. Мэрылін зачароўвае, прыцягвае "дасканалай прыгажосцю". Адзін з сяброў актрысы ўспамінае: "У Мэрылін былі сакрэты макіяжу, якія больш ніхто не ведаў і якімі ніхто не карыстаўся. Яна сама знайшла іх". Яна "ўзнеслася з невядомасці да таямніцы аголенай мары ўсёй краіны". Аднак побач з гэтымі адбіткамі незямной прыгажосці актрысы прадстаўлены і фотакарткі з сямейнага альбома, дзе "паўсядзённая" Манро — у кватэры, на спартыўных занятках, у час цяжкага стрэсу, перажыванняў, дрэннага настрою, на вечарыне, на адпачынку з сябрамі і інш. Але, здаецца, што гэтая прастата падманлівая,

ва) ды Аліса Маліноўская (клас віяланчэлі Ірыны Сцяпанавай). У выбары і кампаноўцы праграмы выявіліся прадуманасць, густ, багаты канцэртны досвед музыканта-педагога, імкненне перадусім паразумецца з публікай, а потым ужо — задаволіць нейкія "цэхавыя", чыста прафесійныя амбіцыі.

За кранальным хваляваннем Ганны Маркавай адчуваліся грунтоўная школа і перспектыўныя выканальніцкія магчымасці, скіраванасць да пошуку — пошуку італьянскай пявучасці ў "Чаконе" Т.Віталі, драматычных інтанацый — у санатным Largo Ф.Джэмініяні, лёгкасці — у Моцартавым сонечным до мажорным "Ронда", постмадэрнісцкай усмешкі-хмурынкі ў "Менуэце" А.Шнітке.

Аліса Маліноўская ўжо не ўпершыню выступала на камернай філарманічнай сцэне ў дуэце з Аляксандрам Мільто (пару гадоў таму ён падрыхтаваў эфектную праграму з выхаванцамі класа І.Сцяпанавай, і "ЛіМ" на той канцэрт адгукнуўся). Гэтым разам яна проста выклікала захапленне: сапраўдным артыстызмам, адчуваннем сцэны як сваёй арганічнай стыхіі, імкненнем "трымаць стыль" (Adagio з ля мажорнай санаты Л.Бакерыні яе віяланчэль нібыта праспявала ў высокім рэгістры, паказаўшы амаль скрыпічнае бельканта!).

Пачуццё ансамбля ўражвала на працягу ўсёй праграмы. Музыканты — музіцыравалі: без каламбура, бадай, і не скажаш пра тое галоўнае, чым вылучалася іх натхнёнае выступленне і за што нават меламан-максімаліст гатовы дараваць усхваляваным выканаўцам выпадковыя "не тыя" ноты.

Сэрцам гэтай прыгожай мастацкай імпрэзы была "Цішыня" — п'еса А.Дворжака. Яна прагучала ў памяць пра цудоўную піяністку, педагога Веру Лагвіненку, якая сама бліскуча і неаднойчы выступала ў Зале камернай музыкі. Мінуў год, як завяршыўся яе зямны шлях. Яна была блізкім і дарагім чалавекам для Аляксандра Мільто, яго лёсам...

Рамантычнае светлае "Трыо" Ф.Мендэльсона, сыгранае звыш замоўленай праграмы — у адказ на доўгія авацыі публікі, — паяднала ўдзельнікаў канцэрта. Сталася лёгкім і радасным пастскрыптумам: ці то проста сюрпрызам, ці то намёкам на новы ўзлёт супольнай творчай працы музыкантаў — цяпер ужо ў якасці трыо...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

***На здымку: падчас рэпетыцыі.***
***Фота М.ЗАМУЛЕВІЧА***

---

на кожнай карціне Мэрылін непаўторная, жывая, шчырая, па-рамантычнаму прывабная.

Экспануецца на выставе і партрэт, які абяссмерціў Манро — фота Фрэнка Паўолні (адзін з варыянтаў адбітка на чырвоным фоне быў прададзены на Нью-Йорскім аўкцыёне за астранамічную суму ў 3,8 млн. долараў). Выстаўлены таксама і работы Мілтана Грына, якія адрозніваюцца шчырасцю, даверлівасцю, прадстаўляюць нетыповы вобраз кіназоркі.

Фотаздымкі з "чорнай серыі" болей, чым якія-небудзь іншыя вытрымалі выпрабаванне часам. Унікальнымі з'яўляюцца апошнія здымкі Манро, зробленыя Бортам Стэрнам для часопіса "Вог": "Для мяне, як і для мільёнаў амерыканцаў, твар Мэрылін быў чароўным сімвалам, увасабленнем кахання... Яна была цудоўная. Яна была сапраўдная..." На кантактных адбітках актрыса паставіла крыж маркерам. Каляровыя дыяпазітывы перакрэсліла крыж-накрыж шпількай, якраз на стужцы. Усе гэтыя здымкі былі знявечаны. Знішчаны... Б. Стэрн: "Яна не проста перакрэсліла мае фотаздымкі, яна перакрэсліла саму сябе". Праз два тыдні (4 жніўня 1962 г.) у 36-гадоў Манро скончыла жыццё самагубствам... "Зоркі паміраюць, аднак іх святло вечнае", — заўважыў Б. Стэрн.

М. М. была таленавітай актрысай. Неяк пасля здымак стужкі "Аўтобусны прыпынак" удзельнікі прагляду адзначылі: "Мы былі ўражаны Манро. Яна цудоўна іграла і тэатральныя і драматычныя сцэны. Яна была сапраўдная. Яна разрывала сэрца..." Добра што на выставе прадстаўлены і фотакадры са шматлікіх кінастужак з удзелам загадкавай бландзінкі ("Усё аб Еве", "Не турбуй сябе стукам", "Джэнтльмены аддаюць перавагу бландзінкам", "Рака з якой не вяртаюцца", "Шчаслівае каханне", "Нешта павінна здарыцца" і інш.)

Як вынікае з фоталетапісу М. М. не адчула сапраўднага кахання. Ёй была патрэбна душа, нечым падобная на яе ўласную. Яна — гэта яе кар'ера, яе кар'ера — гэта яна. Мэрылін так ніколі і не сустрэла чалавека, які б здолеў даць ёй волю.

Манро марыла аб спакойным жыцці: "Мне падабаецца рабіць сваю справу без спешкі. Мне здаецца, што мы занадта хутка жывём. Ад гэтага людзі нервовыя і нешчаслівыя..."

Сёння надзвычай актуальнымі падаюцца словы сучасніка Мэрылін: "Публіка выстаўляе яе пад сонцам, імкнучыся сфакусіраваць промні так, каб час спыніўся, і адчуць яе жыццё як сваё..."

**Наста ЛІТВІН**

---

**ФЕСТЫВАЛІ**

# «АНІМАЁЎКА—2003»

## ЦІ АНІМАТАРЫ ЎСІХ КРАІН ЯДНАЙЦЕСЯ!




## 1. З ГІСТОРЫІ ФЕСТЫВАЛЮ

***Першапачаткова ў фестывалі анімацыйнага кіно "Анімаёўка" бралі ўдзел толькі беларускія мульцікі. Першы фэст, які праводзіўся ў Мінску ў 1998 годзе меў назву Фестываль беларускага анімацыйнага кіно і ўключаў у праграму аднадзённага паказу беларускія мультфільмы-лаўрэаты міжнародных фестываляў (1986—1996 гг.), а таксама дыпломныя работы студэнтаў-аніматараў, выпускнікоў курса І. Волчака (арганізатарамі мульціфоруму тады выступілі Беларускі саюз кінематаграфістаў у асобе рэжысёра-аніматара І. Волчака і дзіцячая кінавідэастудыя "ДАКВІСТ" пры БСК).***

***Але з цягам часу фестываль "Анімаёўка" даволі моцна змяніўся. Цяпер ён праводзіцца ў Магілёве, мае разнастайную конкурсную праграму, журы, свой адметны прыз — "Крыштальны аловак" і нават кан'як, на этыкетцы якога адбіты найцудоўнейшы заклік: "Аніматары ўсіх краін яднайцеся!" Акрамя гэтага значна папоўніўся склад арганізатараў фэсту (сёння гэта найперш Магілёўскае гарадское камунальнае унітарнае кінавідэапрадпрыемства "Позірк", Магілёўскі гарадскі выканаўчы камітэт, Упраўленне культуры Магілёўскага гарвыканкама, РГА "Беларускі Саюз кінематаграфістаў", Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм", а таксама Мінкульт РБ і Дэпартамент па справах моладзі Міністэрства адукацыі РБ) і, што прыемна, краін-удзельніц. Фестываль "Анімаёўка" стаў міжнародным, чаму вельмі рады цяперашні яго прэзідэнт, а таксама старшыня РГА "Беларускі Саюз кінематаграфістаў" І. Волчак.***

## 2. Конкурс

Сёлета ў конкурсе VI Міжнароднага фестывалю анімацыйных фільмаў "Анімаёўка—2003" бралі ўдзел больш за 34 мультфільмы з Расіі, Беларусі, Літвы, Латвіі, Казахстана (удзельнічаў у фэсце ўпершыню). Усе прадстаўленыя анімацыйныя стужкі (2002—2003 гг.) адрозніваліся і тэхнікай, і метражом. У мульціках панавалі дасціпны гумар (нават чорны), лірызм, філасофская разважальнасць. Многія з анімацыйных стужак былі цалкам забаўляльныя, другія — пазнавальныя, сур'ёзныя; дэманстраваліся фестывальныя, аўтарскія мульцікі — для дарослых, а таксама разлічаныя на "камерцыйны" поспех — смех і апладысменты дзіцячай аудыторыі.

Трэба адзначыць, што сёлета ў конкурснай праграме было не шмат арыгінальных, рэдкіх па тэхніцы мульцікаў (напрыклад, вядомы расійскі рэжысёр-аніматар Г. Бардзін у свой час працаваў з такімі спецыфічнымі матэрыялам, як пластылін, дрот, запалкі, а таленавіты беларускі рэжысёр І. Кадзюкова і цяпер робіць стужкі ў рэдкай для сучаснай анімацыі тэхніцы плоскай марыянеткі). Мо таму з большасці традыцыйных маляваных мультфільмаў вылучыліся і запомніліся (і нават выклікалі дыскусію ў прафесіяналаў) "нетрадыцыйныя", так званыя камп'ютэрныя мульцікі. Напрыклад, даволі эксперыментальны фільм беларускага рэжысёра А. Пяткевіч "Песенька для канарэйкі", які заклікаў найперш дарослых ніколі не здраджваць свайму прызванню і ўвогуле — самому сабе, быў уганараваны дыпломам за ўдалае ўкараненне камп'ютэрных тэхналогій. На жаль, без прыза застаўся даволі прыкольны "чорны" мульцік М. Багаеўскага "Тры парасяці" (студыя "Майстар-фільм", г. Масква), у якім трое "крутых" братоў "свінячага" паходжання з'ядаюць зваранага імі небаракуваўка. М. Багаеўскі, які зняў цалкам камп'ютэрны мультфільм для дарослых сцвярджае, што на любую сілу заўсёды знойдзецца другая сіла, а зло, якое жыве ў кожным з нас, нават самым бязвінным, безабаронным — невынішчальнае. У трохмернай камп'ютэрнай прасторы разгортваюцца і жудасныя падзеі (мультпародыя на фільмы жахаў) анімацыйнай стужцы Н. Анціпавай "Настаўнік-забойца". З дапамогай няхітрых школьных прыладаў — цыркуля і "сцірак" — студэнтка ВГІКА паставіла страшэнную гісторыю пра настаўніка-забойцу, які прыйшоў у клас і "забіў": кантрольная!

Не думаецца, што камп'ютэрныя тэхналогіі зменяць у горшы бок мастацтва анімацыі, чаго сёння баяцца некаторыя кінематаграфісты. Як трапна заўважыў некалі прэзідэнт Адкрытага фестывалю анімацыйнага кіно, што ладзіцца ў Суздалі, А. Татарскі, камп'ютэр найцудоўнейшы інструмент, але гэта не магістральны шлях развіцця анімацыі. Бо са з'яўленнем пішучых машынак праца пісьменніка не змянілася. "З дапамогай трохмернай анімацыі мы можам анатамічна дакладна ўвасобіць любога палітыка (А. Татарскі з'яўляецца стваральнікам знакамітых камп'ютэрных тэлеперсанажаў Хрюна Маржова і Сцяпана Капусты. — **В. Б.**), але гэта не мастацтва, а хутчэй атракцыён" (цытата з газеты "Известия"). Аднак, калі меркаваць па рэпліках дзяцей, якія разам з журы глядзелі многія конкурсныя мультфільмы, камп'ютэрныя героі даволі моцна ўплываюць на іх успрыманне традыцыйнай анімацыі. Часам у зале чуліся такія разважанні: "Масяня" такая ж самая, як яны — толькі там "прыколаў" паболей."

Сапраўдным фестывальным, аўтарскім мультфільмам падаўся мульцік І. Максімава "Маруднае бістро" (студыя "Майстар-фільм", г. Масква), у якім за вобразамі абстрактных, незвычайных герояў (ці то людзей, ці то замілавальных монстрыкаў) паўстае даволі філасофская ідэя, што ў гэтым жыцці бог не роўна дзеліць (адным у бістро падаюць ежу хутка, а другім — марудна, не спяшаючыся) і толькі любоў можа зрабіць людзей насамрэч шчаслівымі.

Да шэрагу своеасаблівых філасофскіх мультфільмаў хочацца аднесці і ВГІКаўскія курсавыя работы "Пачакай, яшчэ" (рэж. А. Скварцова) і "Лоўца рыб" (рэж. Ю. Мілехіна). У мульціку А. Скварцовай (спецыяльны дыплом фестывалю) ажываюць незвычайныя вобразы з жывапісу мастакоў-авангардыстаў XX ст. (Шагал, Пікасо...), галоўнымі героямі тут робяцца Смерць і дзяўчынка, якая просіць у Смерці яшчэ пачакаць, даючы людзям каштоўную магчымасць жыць і насалоджвацца жыццём. Рэжысёра Ю. Мілехіну зацікавілі біблейскія вобразы: паводле Дабравесця, толькі зрабіўшыся "лаўцом чалавекаў", рыбакі пераўтвараюцца ў анёлаў (ці ў людзей, якіх ахоўваюць анёлы). Лірычная, графічна непаўторна намаляваная стужка!

"Крыштальным алоўкам" за лепшую праграму для дзяцей сёлета была ўганаравана маскоўская школа-студыя "Шар", з мультфільмаў якой перадусім хочацца вылучыць забаўляльную, вясёлую стужку "Падкідыш", а таксама даволі стыльную (рэжысёр адметна іграе ў кадры са святлом і ценем, чорнай і белай фарбамі), добрую карціну "Пра дзяўчынку, якая знайшла свайго мішку" паводле верша С. Чорнага.

Да шэрагу цікавых, пазнавальных мультфільмаў можна аднесці анімацыйныя стужкі латышскага і літоўскага рэжысёраў-аніматараў Р. Сціебра і А. Сяленеса, якія зацікавіліся і гісторыяй далёкай Афрыкі, і роднай краіны. Самабытнай, непадобнай на іншыя выглядала стужка М. Сцяпанавай "Свята" (студыя "Майстар-фільм"), зробленая па матывах народнага ўкраінскага жывапісу.

## 3. Тут даюць Гран-пры

На Адкрытым фестывалі анімацыйнага кіно ў Суздалі ўжо некалькі год запар журы не прысуджае Гран-пры. Як паведамляецца ў газеце "Известия", слабы ўзровень айчыннай анімацыі прэзідэнт фестывалю А. Татарскі звязвае са зніжэннем якасці падрыхтоўкі аніматараў і іх памкненнем рабіць найперш аўтарскае кіно...

На шчасце, на "Анімаёўцы" такіх праблем не існуе. Пасля нядоўгіх спрэчак журы, якое сёлета ўзначальвала маскоўскі кіназнаўца А. Таўрог, усё ж прысудзіла Гран-пры адзінаму ў конкурсе поўнаметражнаму мульціку "Карлік-нос" (рэж. І Максімаў). Гэтая добрая дзіцячая карціна належыць не вытворчасці Галівуда, як можа падацца на першы погляд, а Санкт-Пецярбургскай студыі "Млын", якая існуе ўсяго чатыры гады.

Але на мой погляд, сапраўдную канкурэнцыю "Карліку-носу" склала анімацыйная работа А. Дземіна "Ціхая гісторыя" — найноўшая інтэрпрэтацыя самага лепшага мульціка ў свеце "Вожык у тумане". Па волі рэжысёра студыі "Майстар-клас" на гэты раз у тумане заблудзілася надзвычай зацікаўленае мядзведзянятка. Праўда, у адрозненне ад геніяльнай работы Нарштэйна, у мульціку А. Дзёміна няма тых філасофскіх метафар пра нашае жыццё "ў тумане", а пануюць простыя камічныя сітуацыі і прыкольныя героі (у тумане мядзведзянятка сустракае ні белага каня ці саву, а зайца і лося). Шкада, што гэтая "Ціхая гісторыя" не зрабілася гучным адкрыццём фестывалю. Думаецца, яна была вартая хаця б спецыяльнага дыплома за лепшае перайманне анімацыйных традыцый...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*Мінск-Магілёў-Мінск.*

Сёлета ў верасні выдавецтва "Міжнародны цэнтр культуры кнігі" адсвяткавала свой 10-гадовы юбілей. Створанае пры садзейнічанні Пасольства Расіі ў Беларусі і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, яно трывала сцвердзіла сябе як выдавец альбомнай прадукцыі разнастайнай тэматыкі. Сярод заснавальнікаў — былі выдавецтвы "Універсітэцкае" і "Юнацтва", а зараз далучыліся яшчэ "Вышэйшая школа" і "Мастацкая літаратура", Мінскае гарадское таварыства рускай культуры "Русь" і творчы калектыў рэдакцыі фотавыданняў. У сваёй дзейнасці "Міжнародны цэнтр культуры кнігі" кіруецца рашэннямі Міжнароднага кангрэса ў абарону кнігі (Масква, чэрвень 1993 г.), у звароце якога да кнігавыдаўцоў гучыць заклік рашуча выступаць супраць фармацыі культуры, усяляк умацоўваць нацыянальныя традыцыі, узбагачаючы іх лепшымі ўзорамі сусветнага кніжнага мастацтва.

Фотаальбомы і кнігі "Міжнароднага цэнтра культуры кнігі" ярка і праўдзіва сцвярджаюць на сваіх старонках, што гісторыя — гэта частка нас саміх, што нашае "сёння" нельга адарваць ад нашага "ўчора", а ўрокі мінулага патрэбны для фарміравання будучага. Гэта і бібліятэка "Па праву памяці", і серыя альбомаў "Існасць Беларусі", і фотаальбом "Памяць зямлі Беларусі", і серыя фотакніг "Помнік, памятник, manument". А самы першы альбом аўтара Віктара Анікіна "Мінск. Архітэктура сталіцы Рэспублікі Беларусь" атрымаў дыплом I ступені на Рэспубліканскім конкурсе майстэрства кнігі. Хоць амаль дзесяць гадоў мінула з дня выдання гэтай кнігі, шматлікія яе старонкі не страцілі надзённасці, бо тут асаблівая ўвага нададзена сучаснай архітэктуры, перспектывам развіцця горада. У працяг гэтай тэмы адзначым, што сумесна з выдавецтвам "Універсітэцкае" выдадзены фотаальбом "Мінск вячэрні", па-майстэрску аформлены мастакамі Уладзімірам Шолкам і Валерыем Мішчанкам. Пра кіраўніка "Міжнароднага цэнтра культуры кнігі" паэта і мастака Валерыя Мішчанку хочацца сказаць асобна. У фотавыданнях выдавецтва апошніх пяці гадоў ён выступае не толькі як мастак-афарміцель і мастацкі рэдактар, але і як аўтар-складальнік, распрацоўшчык пастаронкавага макета і, нарэшце, каардынатар, прадзюсер-выдавец кнігі, што ў наш час патрабуе вялізных намаганняў, каб выданне было не толькі добра "зроблена" і надрукавана, але і як мага хутчэй знайшло свайго чытача.

Цудоўна падабраны ілюстрацыйны матэрыял, цэласна і гарманічна створаны Валерыем Мішчанкам макет выдання, прафесійна выкананы на камп'ютэры дызайнерам Вадзімам Нога арыгінал-макет і фотаальбом паэта Уладзіміра Мароза "Мінск старадаўні і малады" не толькі атрымаў дыплом на Рэспубліканскім конкурсе мастацтва кнігі, але і вытрымаў два выданні за апошнія два гады.

У фотаальбоме, які пабачыў свет некалькі месяцаў назад пад назвай "Памяць зямлі Беларусі", складальнік, аўтар макета і подпісаў да ілюстрацый, мастак Валерый Мішчанка ставарае надзвычай маляўнічае асяроддзе, акрэслены ансамбль з колеравага фону старонкі, пейзаж, на якім гучаць гістарычныя помнікі, вершы беларускіх паэтаў і подпісы да ілюстрацый на чатырох мовах. Выразныя сродкі, як заўсёды, надзвычай стрыманыя і лаканічныя.











# ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ ТВОРЧАСЦІ І ПЛЁНУ

Проста і маляўніча афармлена гістарычная бібліятэчка "Па праву памяці", аналагаў якой няма на нашым кніжным рынку. Гэта і невялічкія брашуры мастацкіх нарысаў, апавяданняў, успамінаў удзельнікаў гістарычных падзей мінулага XX стагоддзя ў серыях "Ветэраны-пагранічнікі — моладзі", "Ветэраны вайны — моладзі", а таксама падагульняючы зборнікі кожнай серыі, такія, як "Іх лёс — граніца", "Гераічная Беларусь" і іншыя. Гэтыя кнігі, якія выдаюцца сумесна з Дзяржаўным камітэтам пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь і рэспубліканскімі ветэранскімі арганізацыямі, нясуць не толькі ваенна-патрыятычную выхаваўчую місію, але і пакідаюць нашчадкам аповеды відавочцаў, удзельнікаў гістарычных падзей, дзе ў тэксце адзіны цэнзар — унутраны голас аўтара, ягоныя перакананні, ягонае "Поле бітвы", на якім здзейсняецца інтэлектуальнае змаганне за сцвярджэнне жыццёва важных для кожнага каштоўнасцей.

У 1998 годзе сумесна з прэс-службай Выканаўчага сакратарыята СНД і выдавецтвам "Універсітэцкае" было ажыццёўлена выданне фотакнігі "Беларусь. Партрэт на фоне перамен", дзе расказвалася пра Рэспубліку Беларусь: багацейшую гісторыю яе народа, прыроду, эканоміку, культуру, палітычнае аблічча краіны і міжнародныя стасункі з іншымі дзяржавамі. А ўжо ў 2003 годзе, праз пяць гадоў, як бы падводзячы вынікі мінулых гадоў, выйшла ў свет новае выданне кнігі "Беларусь. Партрэт на фоне перамен".

Літаральна днямі "Міжнародным цэнтрам культуры кнігі" здадзены ў друк на Мінскую фабрыку каляровага друку невялікія фотаальбомы з серыі "Помнік, памятнік, манумент", "Мінск. Верхні горад" і "Мінск. Плошча Перамогі", якія расказваюць пра гістарычныя помнікі на тэрыторыі горада Мінска, пра падзеі, якія адбываліся на тым ці іншым гістарычным месцы сталіцы Беларусі. Рыхтуюцца ў гэтай серыі кнігі "Брэст. Крэпасць-герой" і "Мінск. Плошча незалежнасці".

Завяршаецца рэдакцыйная падрыхтоўка і іншых выданняў, такіх, як "Англа-руска-беларускі тэматычны слоўнік. Прырода", фотаальбома Леаніда Дранько-Майсюка "Давыд-Гарадок" са слайдамі фотамайстра Анатоля Клешчука, альбомаў пра мастакоў Беларусі "Віктар Грамыка" і Леанід Лапчынскі. У серыі маляўнічых дзіцячых фотакніг у казачнай форме апавядаецца пра свет раслін і жывёл, якія насяляюць нашу краіну. Гэта кнігі — "Беларусь у казках дзядулі лесу", "Цуды лебядзінага возера" і "Скарбы Белавежскай пушчы". У фотаальбоме "Беларусь" можна будзе ўбачыць работы такіх фотамайстроў як Алег Бабінец, Алена Клюйко, Георгій Ліхаровіч, Валерый Харчанка, Аляксандр Беразняк і інш.

Падрыхтаваны да выдання кнігі А. Сержпутоўскага "Прымхі і забабоны беларусаў" і Я. Баршчэўскага "Шляхціц Завальня ці Беларусь у фантастычных апавяданнях", ілюстраваныя цудоўнымі пейзажнымі слайдамі з дапасаваннем віртуознага малюнка і сучаснага камп'ютэрнага дызайну. Аднак з-за недахопу сродкаў, выпуск гэтых кніжак затрымліваецца.

Таму, якімі б не былі паспяховымі праекты па выданні альбомаў і кніг па гісторыі і культуры, яны не камерцыйныя, вялікіх грошай выдаўцам не прыносяць і таму пытанне фінансавання кожнага наступнага праекта заўсёды стаіць дастаткова востра.

"Міжнародны цэнтр культуры кнігі" запрашае ўсіх зацікаўленых асобаў прыняць удзел у выпуску выданняў, якія раскажуць нашчадкам пра сённяшні час, пра нашу Радзіму, пра свет, у якім нам і ім жыць.

В. К.







**ЛІТАРАТУРНЫ МЕРЫДЫЯН**

# СВЕТ, ЁН ЦЕСНЫ!



Сёлетнюю вясну — палову сакавіка, красавік, тры тыдні мая — я правалэндаўся ў Амерыцы. Там у Нью-Йорку дзесяты год жыве мой малодшы брат. Дык яшчэ з леташняга пераднавагоддзя ў пісьмах і пры тэлефанаванні з той далечы ён мяне пераконваў, што сямідзесяціпяцігоддзе, да якога я, не надта наблізэнню даты радуючыся, падыходзіў, мне лепей будзе адзначыць з ім і ягонай сям'ёй. Ведае, што пасля смерці жонкі і пераезду на працу ў Маскву адзінага сына я не люблю дзён урачыстасцей — сваю самотнасць адчуваю тады асабліва. Пераканаў. Давёўшы праз нейкі час у амерыканскай амбасадзе цікаўнай жанчыне-консулу, што намеру застацца ў яе вялікай дзяржаве нелегальным імігрантам ані не маю, я неўзабаве рэйсам польскага "Лоту" перамахнуў з берагоў Свіслачы на бераг Атлантычнага, адкуль на колькі тыдняў і Ціхага акіянаў.

З часіны гарбачоўскіх на гэты конт паслабленняў (да таго быў, як гаварылася, нявыязны, марна спрабаваў ушчаміцца ў якую загрантурысцкую групу) я па свеце трохі павандраваў. І ў ліку самагалоўнага ў падарожным рыштунку заўсёды прыхопліваў дыктафон. Прыпыняюся потым, скажам, каля рэшткаў арэны, на якой колісь біліся з тыграмі гладыятары, ці ўзнімаюся, не зважаючы на задышку, у замак на кручы па-над Рэйнам, або пераходжу ў Парыжы ад карціны да карціны ў музеі Пікасо (мала што, шчыра кажучы, у тых карцінах разумеючы), — тут жа і мармычу ў дыктафон пра тое, што бачу, адчуваю, думаю. Да блакнота ж ці сшытка калі там дабярэшся, дзе-небудзь пад ноч. Да той гадзіны шмат пра што забудзешся, шмат што стомленаму проста не стане сілы занатоўваць. А дыктафонам усё фіксуецца адразу.

Так было і гэтым разам. Ажно на шэсць касет магнітнай стужкі намармытаў сама рознага, паглынаючы вачыма страканіну тыпажоў сярод публікі на ўскраінных станцыях нью-йоркскай сабвэйкі, натрапляючы ў Лос-Анджэлесе на знаёмыя імёны ў зорках на тратуарах галівудскай так званай "дарогі славы", слухаючы па тэлебачанні развагі пра вайну ў Іраку не так і даўно папулярнага маскоўскага паведамляльніка тэленавін, а цяпер свяцілы аднаго з рускамоўных тэлеканалаў Нью-Йорка Юрыя Растова, — вартым запаміну чаго толькі не лічыў! А па вяртанні дамоў у Мінск праслухаў усё нагаворанае і здзівіўся: выявіў, што з роздумам пра ўбачанае і пачутае амерыканскае як жа часта быў у мяне спалучаны роздум ці ўспамін пра айчыннае, пра тое, што на пройдзеным за жыццё шляху дзе-колечы хвалявала, перажывалася, займала маё літаратарскае памкненне.

Ну вось тамтэйшыя сродкі інфармацыі паведамілі пра смерць на 89-м годзе жыцця пісьменніка Говарда Фаста. Таўшчэзная, як усе амерыканскія газеты, "Нью-Йорк таймс" надрукавала на першай старонцы некралог, у якім нябожчык названы быў "найбольш прадукцыйным і папулярным амерыканскім класікам-раманістам". А мяне прачытанае вярнула ў даўнія падзеі ў маёй краіне.

Думаю, сёння імя Фаста на постсавецкім бязмежжы вядомае хіба толькі старэйшаму пакаленню інтэлігенцыі. Кінафільм "Спартак" з жывой легендай Галівуда Кіркам Дугласам у галоўнай ролі ў захапленні глядзелі ў нас мільёны і маладзейшых гледачоў. Ды што створаны фільм паводле рамана Говарда Фаста, ведае з іх вельмі мала хто.

Між тым паўстагоддзя назад гэтае імя было ў СССР уга як на слыху. Здымаю з паліцы таміну выдадзенага ў Маскве ў пяцідзесятыя гады мінулага стагоддзя "Энцыклапедычнага слоўніка", і ў апублікаванай з партрэцікам ладнай зацемцы пра Фаста чытаю, што гэта "відны грамадскі дзеяч, камуніст", "смелы барацьбіт за мір і дэмакратыю". Напісанае ім шырока ў нас друкавалася, выдавалася, газеты яго славілі як вернага сябра Савецкага Саюза, яму была прысуджана найвышэйшая тады ў дзяржаве Сталінская прэмія "За ўмацаванне міру паміж народамі".

Ды настала пара царавання Хрушчова. Свет жахнуўся адкрытым пра ўчыненае пры Сталіне ў краіне "пабудаванага сацыялізму". Як шмат заходніх пісьменнікаў, вучоных, артыстаў, мастакоў, што да таго сімпатызавалі Савецкаму Саюзу, асабіста Сталіну, камуністычнаму руху, Фаст выйшаў з кампартыі, парваў сувязь з прасавецкімі грамадскімі арганізацыямі. І быў залічаны ў нас у ворагі. "Фаст — псаломшчык рэвізіянізму" называўся зласлівы артыкул Мікалая Грыбачова, апублікаваны ў студзені 1958-га ў "Литературной газете". Перасталі выдавацца ягоныя кнігі, памяць пра яго вытоптвалася, не дзіва, што маладзейшыя пакаленні нічагуткі не ведаюць пра пісьменніка, які з амерыканскіх майстроў слова нашага часу сама чытаецца ў свеце.

Я, зразумела, гэтае імя памятаў. І пачуўшы яго ў сувязі з жалобнай весткай, не мог не згадаць мінуўшчыну, калі было яно ў СССР у пашане. Мне тады дваццаць — дваццаць пяць, я студэнт універсітэта, пачатковец-газетчык. А творыцца ў краіне прыкрае. Душыцца нелысенкаўская біялогія, і апаненты "народнага акадэміка" (так Трафіма Дзянісавіча Лысенку тытулавалі) — сапраўдныя вучоныя, не шарлатаны, як фактычна сам Лысенка, — зневажаюцца, адхіляюцца ад навуковай дзейнасці. Галоўны ідыёлаг дзяржавы Жданаў павучае Шастаковіча, Пракоф'ева, яшчэ буйных кампазітараў якую і як належыць ствараць музыку. Пад назвай "барацьба з касмапалітызмам" разгортваецца брыдкая антысеміцкая кампанія. Усчынаецца агідная, інквізіцыйная "справа ўрачоў".

Больш за пяць дзесяцігоддзяў прабегла, а перад вачыма, быццам учора гэта адбывалася, зборышча ва універсітэце, сабранае для выкрыцця архішкодніцтва ў беларускай фалькларыстыцы прызнанага касмапалітам любімага студэнтамі дацэнта Барага. Неўразумелыя твары адных. Зларадныя іншых. Зацкаваны самога Льва Рыгоравіча Барага...

Не здагадаешся, што пра што табе нагадае, калі, дажыўшы да сямідзесяці пяці, азіраешся на пражытае! Ды яшчэ далёка ад роднага дому.

Як і меркавалася, шаноўную гэтую дату жыцця я сустрэў у братавай кватэры ў адным з нованароджаных "рускіх" куткоў Нью-Йорка. Гэткіх куткоў, дзе англійскую гаворку пачуеш нашмат радзей, чым рускую, цяпер тут ужо нямала. Не толькі славуты Брайтан-Біч. Як з пярэбарамі стала лягчэй, у ЗША перабралася пад мільён ужо былых грамадзян СССР.

Дома ў Мінску цішыню пустога майго жытла, пэўна, парушылі тэлефонныя званкі сяброў, якім хацелася павіншаваць юбіляра. Не выключана, разумеў, радок-другі віншавання з'явіўся ў якой-небудзь газеце. Мо ўспомніла пра мяне радыё — усё-ткі ладна гадоў адпрацаваў у яго літаратурнай рэдакцыі. Але тут, за колькі ж тысяч кіламетраў ад дому, апроч сваякоў, на клопат якіх мяне прынесла, дасягненне мною ўзроставай вяхі, што лічыцца этапнай, нікім, лічыў, заўважанае быць не магло. Заставалася самому заглыбіцца ў асэнсаванне вынікаў пражытага, у аджыўленне ў памяці таго, чым на схіле веку магу быць задаволены, і таго, што ў перажытым нават на шматгадовай адлегласці выклікае горыч, а то і сорам.

Ды свет цесны! Хіба мог я прадбачыць прыемную для мяне акалічнасць, што ў адзін час са мной у Нью-Йорку будзе знаходзіцца пісьменнік Анатоль Клышка — гасцяваць у сына, каторы год амерыканца.

Цяпер Анатоль Канстанцінавіч — паважаны крытык, аўтар слаўных асветных аповедаў для дзятвы, укладальнік буквароў, па якіх малышня ў Беларусі робіць першыя крокі далучэння да ведаў, заслужаны дзеяч культуры. Мне ж ён помніцца сарамяжлівым худзенькім студэнцікам, які прыходзіў у рэдакцыю папулярнай тады і шматтыражнай "Чырвонай змены" з вершамі.

Дзякуй яму, даведаўся нумар тэлефона, пазваніў, павіншаваў, і мы з прыемнасцю пра тое даўняе пагаварылі. Быў я тады ў "Чырвонай змене" загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва, меў таму непасрэднае дачыненне да спрэчак, дыскусій, узвелічэнняў і зрынаў, якія бурапенілі ў створаным пры рэдакцыі літаратурным аб'яднанні. Юнымі, дзёрзкімі, з'едлівымі памятаю на пасяджэннях аб'яднання Ніла Гілевіча, Петруся Макаля, Генадзя Бураўкіна, Івана Чыгрынава, Барыса Сачанку, Янку Сіпакова, Вячаслава Рагойшу, Уладзіміра Паўлава, яшчэ колькі тадышняга маладняка прыгожага пісьменства, што цягам часу стаў аўтарытэтнымі імёнамі ў паэзіі, прозе, літаратуразнаўстве. Ужо масціты, услаўлены Рыгор Барадулін прысвяціў аб'яднанню — стартавай пляцоўцы свайго ўзлёту — верш. І ў ім з удзячнасцю натыкнуўся я на радкі:

*Год пяцьдзесят чацвёрты ехаў*
*На пенсію,*
*На здачу спраў,*
*Калі Уладзімір Львовіч Мехаў*
*Мой першы верш надрукаваў.*

Недзе ў пару, якую размова з Клышкам уваскрасіла ў памяці, я захапіўся быў яркай гістарычнай постаццю, тады прызабытай, — Мікалаем Канстанцінавічам Судзілоўскім. Недасяжным засвеццем для майго ўяўлення быў у тыя гады Сан-Францыска, дзе гэты народжаны на Магілёўшчыне дваранін пражыў пэўны адрэзак свайго пажыццёвага вандравання па планеце пасля ўцёку з Расіі — тут яму, віднаму народніку, пагражала катарга. Пагатоў штосьці амаль міжзорнае паўставала мне за назвай Гавайі, дзе ў пачатку мінулага стагоддзя ён, беларус, — браты Стругацкія не дадумаліся б! – быў выбраны абарыгенамі ў тутэйшы сенат і стаў яго прэзідэнтам.

А ў сёлетнім красавіку апынаюся ў Лос-Анджэлесе, дзе добра ўжо асвойталася блізкая мне сям'я былых кіяўлян, і мне прапануецца туды, на Гавайскія астравы, на колькі дзён махнуць. Гэта ж ляцець, чуў ва ўгаворах, менш, чым я ляцеў сюды ў Лос-Анджэлес з Нью-Йорка, а на Гавайях круглы год райскі клімат, і ў іх, маіх сяброў, ёсць там сваё невялічкае жытло. Сан-Францыска ж, куды прыехаў у экскурсійным аўтобусе, я дужа імкнуўся хоць трошкі ўбачыць такім, якім бачыў яго, жывучы тут больш як у стогадовай даўніне, грамадзянін свету Русель-Судзілоўскі — для мяне герой маёй радыёп'есы, майго фільма, майго апавядання для дзяцей, маіх часопісных артыкулаў.

Успомнілася там, у Сан-Францыска, сітуацыя, за якую сябе колісь дакараў. Калі радыёп'еса "Гавайская легенда" з Леанідам Рахленкам у цэнтральнай ролі прагучала ў эфіры, зацемка аб ёй і яе героі разасланая была агенцтвам друку "Навіны" па краіне. Надрукаваную ў нейкай далёкаўсходняй газеце, зацемку прачытала ўнучка Судзілоўскага, што жыла ва Уладзівастоку. Паслала мне на адрас Беларускага радыё пісьмо. Атрымаў, зразумела, узрадаваўся. Ва Уладзівасток паляцела кінагрупа — паводле майго сцэнарыя пачалі здымаць дакументальную стужку (дарэчы, у Нью-Йорку я правёў вечар у былога беларусьфільмаўца, які ў той групе быў асістэнтам рэжысёра, цяпер ён тамтэйшы жыхар, менеджэр па продажы нерухомасці). Калі ж стужка пайшла па экранах, кінастудыя атрымала пісьмо на маё імя, якое мяне не столькі ўзрадавала, колькі прынята было мною, сказана ўжо, як дакор. Не дзесьці каля Ціхага акіяна, а паблізу Мінска, у Стоўбцах, жывая была, аказваецца, старэнькая настаўніца — пляменніца Судзілоўскага! У пошуку дакументаў і расказчыкаў пра яго мы матляліся бог ведама куды, а што такога каштоўнага расказчыка маглі паслухаць і зняць зусім блізенька, не ведалі.

Я ніколі не меў білета члена КПСС. Аднак калі б напісанае мною за амаль шэсцьдзесят гадоў работы ў журналістыцы, літаратуры, кінадакументалістыцы сабралася (дам волю фантазіі!) у пару-тройку томікаў збору твораў (болей не набралася б), то львіную долю сабранага склала б апяванне герояў і пакутнікаў рэвалюцыйнай барацьбы ў колішняй Расійскай імперыі, у нас у Беларусі. Ад дзекабрыстаў да Леніна і ленінцаў. Распаведанае ў невялікіх аповесцях, апавяданнях, кіна- і тэлесцэнарыях, эсэ, артыкулах, радыёп'есах.

Гады і гады не пакідала мяне, чалавека свайго часу, цікавасць да гэтай тэматыкі. Кан'юнктурнага разліку ў тым не было. Больш таго, часцяком даводзілася сутыкацца з насцярожаным стаўленнем да сюжэтаў, якія павінны былі на мой погляд імі заахвочвацца, кантрольных інстанцый, ад чыйго меркавання залежала, стаць ці не стаць народжанаму пад маім пяром кніжным, часопісным або экранным творам. Штосьці двухсэнсоўнае адчувалася ідэалагічным наглядчыкам у прапанаваным.

Небеспадстаўна, магу сказаць, адчувалася. Бо, звяртаючыся да зацікаўленага ў сусвет няблізкага рэвалюцыйнага мінулага, аўтар, здаралася (кажу і пра сябе, і не пра сябе), высвечваў — іншы раз мімаволі — вялікае разыходжанне між тым, што было явай краіны, як гаварылася, пабудаванага сацыялізму, і тым, якою ява гэтая ўяўлялася, бачылася ў летуценнай будучыні ідэалістам, што марылі пра радзіму — царства Свабоды, Роўнасці, Братэрства, і ў апантанасці марай ішлі на барыкады, на катаргу, на шыбеніцы.

Кладу словы пра гэта на паперу, і ў галаве аджывае акуджаваўскае песеннае аб "той единственной гражданской", аб дарагіх паэту "комиссарах в пыльных шлемах". Але вось у Нью-Йорку прачытаў выдадзеную там па-руску кнігу "Майстры" Бэлы Язерскай, папулярнага ў "рускай" Амерыцы крытыка, эсэіста, журналіста. У кнігу ўваходзіць і гутарка з Акуджавам. Дык на пытанне, ці даводзілася яму рабіць нешта такое, аб чым потым шкадаваў, Булат Шалвавіч адказаў, што, як ні прыкра гэта ўсведамляць, даводзілася. І адзін з учынкаў, за які ніякавата, гэткі: "Быў у мяне верш, прысвечаны Леніну. Ды калі я пісаў яго, я быў зусім шчыры. Для мяне тады быў Ленін, якога сказіў Сталін. Шмат для каго гэта і зараз так, на жаль".

Паэт быццам раскайваецца. Лагічна можна падоўжыць сказанае — трошкі і за "комиссаров в пыльных шлемах".

Пры самай глыбокай пашане да выдатнага барда раскаяння гэтага я не падзяляю. Сам не выракаюся свайго, у чым з павагай, захапленнем, спагадай, імкненнем зразумець, што імі рухала, апавядаў пра дзекабрыстаў і нарадавольцаў, эсэраў і бальшавікоў. Усведамляючы колькі памылковага, недаравальнага з вышыні пазнейшага разумення было ў іхніх дзеяннях. Гэтае цяжка даравальнае лёгка асуджаць, дакараць за яго, ведаючы наступнае, выніковае. Але рэвалюцыя не была прывезеная ў Расію у запламбаваным вагоне Леніным з Швейцарыі – рэвалюцыя наспела ў Расіі. І ў змагароў супраць самаўладства, за сацыяльную справядлівасць намеры былі чыстыя, высакародныя.

Тамсама ў Сан-Францыска я пастаяў каля будынка, у якім на грэбні вялікай перамогі антыгітлераўскай кааліцыі абвешчана было ў чэрвені 1945-га стварэнне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Пабываў крыху раней і ў сценах яе штаб-кватэры ў Нью-Йорку. За два гады перад тым сядзеў разам з рэжысёрам Анатолем Алаем у кінаархіве ў падмаскоўным Краснагорску — шукалі ў ліку рознага іншага кадры кінахронікі з гэтымі будынкамі. Для дакументальнага фільма пра Андрэя Грамыку, што здымаўся паводле майго сцэнарыя. Гэты славуты на ўвесь свет савецкі дыпламат падпісваў на гістарычнай канферэнцыі ў Сан-Францыска прыняты там Статут ААН, потым цэлую эпоху быў на ааанаўскіх асамблеях постаццю з самавідных.

Не мне аб тым меркаваць, атрымаўся ці не атрымаўся ў нас фільм. Але сутыкнуўся я, як адзін са стваральнікаў яго, з крывагубымі ўхмылкамі на сам факт удзелу ў стварэнні. З вуснаў паслухмянага ў мінулым члена КПСС пачуў: "Вось ваша прынцыповасць — пішаце сцэнарыі пра членаў палітбюро!" Апрыёры, маўляў, не да твару прыстойнаму чалавеку.

Тлустымі кавалкамі будзем раскідвацца, выкрэсліваючы з гісторыі айчыны такія яе дзейныя асобы, як шматгадовы міністр замежных спраў СССР Грамыка. Складаная персона складанага часу гэты сялянскі сын з беларускай глушэчы, што вырас у дзеяча сусветнага маштабу. Дзеяча, вядома, дзяржавы і сістэмы, якім быў адданы, якія зрабілі яго тым, кім стаў. Ён быў для многіх у свеце "містэрам Не", пры ім як праваднікy савецкай знешняй палітыкі планета жыла ў атмасферы "халоднай вайны". Але не ў малой ступені і яму чалавецтва абавязана тым, што "халодная" не перарасла ў пагібельную "гарачую" — сусветную ядзерную.

...Езджу па Амерыцы, а сустрэтае — і колькі такога! — падштурхвае на роздум аб вельмі, здавалася б, адсюль далёкім. Сапраўды, як жа цесная яна, матухна-зямля.

**Уладзімір МЕХАЎ**

## МОВАЗНАВЕЦ І ЧАЛАВЕК

Споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння (21 верасня) Фёдара Янкоўскага — вучонага, педагога, пісьменніка і проста вельмі адоранага чалавека. Ён нарадзіўся на Магілёўшчыне (Глускі раён) у сялянскай сям'і. Скончыў Рагачоўскі педтэхнікум, настаўнічаў на Міншчыне. Удзельнічаў у падзеях савецка-фінскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Закончыў Мінскі настаўніцкі інстытут (у 1939 г., да вайны). Працаваў у глускай раённай газеце, быў настаўнікам глускай сярэдняй школы. Пасля заканчэння філфака Гродзенскага педінстытута выкладаў у Радашковіцкай СШ, закончыў аспірантуру пры Мінскім педінстытуце. Выкладаў там беларускую мову, быў загадчыкам, потым прафесарам кафедры беларускага мовазнаўства ў гэтай ВНУ. Доктар філалагічных навук, член СП СССР, заслужаны дзеяч навукі БССР, быў узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І ступені, Чырвонай Зоркі.

Аўтар наступных выданняў: "Дыялектны слоўнік", "Беларускае літаратурнае вымаўленне", "Роднае слова", "Само слова гаворыць", "Беларускія народныя прыказкі, прымаўкі" і інш. Сааўтар "Фразеалагічнага слоўніка" (з Я. Лепешавым і Н. Гаўрош). Выдаў кнігі прозы "Радасць і боль", "Абразкі", "Прыпыніся на часінку" і іншыя.

Нястомны збіральнік беларускай народнай фальклорнай спадчыны, Фёдар Янкоўскі працаваў у цяжкіх, складаных, часам нават невыносных умовах. Але плён яго дзейнасці ўражвае: некалькі тысяч сабраных ім фразеалагічных адзінак, трапных выслоўяў і разгорнутых выказванняў.

СБС

•

21 верасня ў Купалаўскай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кніг трох паэтак — Таццяны Барысюк ("Аўтапартрэт"), Вольгі Базылёвай ("Крылы ў шафе") і Наталлі Капы ("Бэзавыя дрэвы"). У імпрэзе ўдзельнічалі паэты В. Шніп, Л. Рублеўская, Н. Гальпяровіч, супрацоўнік выдавецтва "Тэхнапрынт" А. Аношка ды іншыя.

Творцы чыталі вершы, разважалі пра літаратуру і яе прызначэнне, адказвалі на пытанні слухачоў. Хаця прадстаўленыя кнігі канцэптуальна адрозныя, агучаныя аўтаркамі вершы стварылі досыць гарманічную прастору. З рэцэнзіямі на выданні паэтак можна азнаёміцца на старонках "Літаратуры і мастацтва".

В. ТРЭНАС



НАШЫ ПУБЛІКАЦЫІ

# «БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ЦЯГНЕ ДА ПЕСЕНЬ...»

**ДЗЁННІКАВЫЯ ЗАПІСЫ ІГАРА ПАЛІВОДЫ**

**(Працяг. Пачатак у №№25,39)**

**Аўт. 11.8.1992 г.**

У СНД лета. Дзікая гарачыня і задуха. Ападкаў няма і не чакаецца. Не скажу за ўсё СНД, але ўскраіны Мінска раніцою ў дыме. Гэта дымяць тарфянікі і нават, кажуць, сям-там гарацць лясы. На тэрмометрах сёння 34—36 у ценю.

Аркестр з 3 жніўня ў адпачынку. Сяджу дома, маючы заказ ад маэстра. Пасля Багдановіча алтар беларускай эстрады запатрабааў новае "ягня". Чарговай ахвярай вызначаны Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч, 1882—1942).

На гарачыні апошнія мазгі расплываюцца ўсярэдзіне чарапной каробкі, і я адчуваю, як правае паўшар'е паступова зліваецца з левым. Але гэтую жыжу даводзіцца ўсё ж турбаваць, і яна там булькае, з шумам пускаючы бурбалкі.

Напэўна, патрэбны час, каб трохі прачухацца ад уражанняў апошніх чатырох месяцаў. Гэткіх нямала.

1. Май. Святкаванне 44-годдзя ўтварэння дзяржавы Ізраіль (!). Паказаўшы шчыры і апантаны інтэрнацыяналізм, развучылі combo (інструментальная група. — **С. Б.**) некалькі прыгожых яўрэйскіх песень і абслугоўвалі вялікае свята, зладкаванае мінскім яўрэйствам на арэне мясцовага цырка. (На прапанову апрануць ярмолкі, аднак, адказалі ветлівай адмовай.) Пазней свята паўтарылі на сцэне інстытута замежных моў (цяпер Дзяржаўны лінгвістычны універсітэт. — **С. Б.**). Плаціла яўрэйства някепска і, галоўнае, адразу ды наяўнымі.

2. Чэрвень. Чарговы рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Дзеля яго патрэб "сотворил" 13 аранжыровак. Імпрэза праходзіла ў вялікай студыі на тэлебачанні і йшла чамусьці ў наўпростым беларускім эфіры. Працаваў бар.

3. Перыядычныя студыйныя запісы "Максіма" на гарадскім радыёвузле. Цяпер праца на стадыі звядзення гатовых фанаграм. Туды амаль не хаджу, каб не перашкаджаць гукарэжысёру. Дзеля чаго ўсё гэта робіцца наогул — мне не надта зразумела, але чаму б не мецць фанаграмы на памяць?

4. Ліпень. Міжнароднае свята песні ў Віцебску (былы "фестываль польскай песні"). Давялося зрабіць колькі аранжыровак і туды. Больш за тое, давялося ў Віцебск нават паехаць на два дні: лабаў (на музыканцкім жаргоне "іграў". — **С. Б.**) у складзе combo jazz на канцэрце "Джаз апоўначы". З трох п'ес адна мая — на 7/8 пад шматзначнай назвай "Пяты кут".

Першыя дні глядзеў фестываль дома па тэлевізары. Там усё было няхораша. Калі ж прыбыў на месца, убачыў, што ўсё гэта і ўвогуле мала прыстойна. Адразу страціў да мерапрыемства цікавасць. "Вниканию в подноготную" конкурснага змагання проціпаставіў горкую — як у складзе combo, так і ў дуэце з каханай жонкай, якая, як заўжды, ні на хвіліну не пакідала мяне ў бядзе. Мімаходзь даведаўся, што там, у Віцебску, гучалі чатыры мае песні ("Па-над белым пухам вішняў" (Багдановіч), "Як Базыль у паходзе канаў" (ён жа), "Цёмнай ноччу" (таксама з "Максіма"), "Талака" (Пранчак) і што з адной з іх салістка Аркестра І. Афанасьева нават выйшла на ІІ месца ў конкурсе. Нецвярозыя галасы ў фестывальным бары аднак заглушалі маё кампазітарскае прозвішча, праскланёнае праз шматкілаватныя дынамікі гіганцкай чашы віцебскай фестывальнай залы.

Яшчэ ярчэй за фестывальны бар запомніўся грандыёзны і з шырокім размахам пікнік, які закаціла Кіраўніцтва Аркестра з нагоды яго 5-годдзя, заякарыўшы абодва "Ікарусы" ў лесе на беразе маляўнічага азярца пад Віцебскам. Кураняты-"табака", свіныя шашлыкі, агуркі-памідоры, гарэлка-шампанскае — усяго такога рознага там было больш як.

— Сёння кожнаму дазваляецца напіцца ўдосталь, — абвясціў Мэтр у кароткім уступным спічы.

Гэта праблему не ўтварыла. Мала таго, каб увесці ўнутр мажліва большую кубатуру, пікнікоўцы час-почас акуналіся з галавою ў ядраную азёрную прахаладзь.

Дома ўсіх з нецярплівасцю чакаў чарговы адпачынак. Калі б тры-чатыры месяцы таму мне сказалі, што я атрымаю ў аркестравай касе да адпачынку каля 16000 рублёў наяўнымі, я б доўга і нервова смяяўся. А сёння ўжо не да смеху: названай сумы цяпер з цяжкасцю можа дастаць да вераснёўскага "жалованья" — толькі на выдаткі па абслугоўванні ўласных сямейных страўнікаў. Бо мы цяпер усе ўступаем у Рынак...

Цяпер, як было ўжо сказана, пераседжваю неверагодную для нашых шыротаў спёку ў ціхай прахалодзе сваёй кватэркі на вуліцы Георгія Пляханава. Вару суп. Слухаю новую стэрэо-радыёстанцыю на FM-хвалях — "Радыё Рокс". Напампоўваюся размаітай музыкай, намагаючыся прымусіць шэрую жыжу ва ўласным чэрапе зноў расцекчыся па належных паўшар'ях і трохі папрацаваць на карысць і славу роднай Айчыны.

Вельмі не хацелася б нарабіць здзеку з нябожчыка Івана Дамінікавіча, ды служба настойліва патрабуе прадукцыі. Вершы падабраны добрыя, з раней забароненых і недрукаваных. У асноўным, грамадзянская лірыка. Ёсць вельмі нават цікавыя ўзоры. Вось, напрыклад, гумар:

*Раз абселі Беларуса*
*Маскалі ды Ляхі,*
*І давай яму сваяцтва*
*Тыкаці — з-пад пахі:*

*— Ты мой ісьцінны браточак! —*
*Маскалёк бармоча;*
*— Ты мой хрэсьнік, мой сыночак! —*
*Юда-Лях сакоча.*

*Беларус-жа ім на тое:*
*— Сваячкі мае вы:*
*Смачны жолудзь вам на каву,*
*Дый высока дрэва!*

**1914**

Што з гэтым тварыць? Залудзіць heavy metal? Або круты funk-rock? А можа, прыпеўкі з падскокам пад цымбалы і гармонік? А як жа тады наконт распальвання нацыянальнай варожасці? На тое ж і артыкул крымінальны ёсць.

Ці такое:

*Жыды! "Хрыстапрадаўцы*
*і прыблуды"!*
*О, слава вам, усебеларускія жыды!*
*Я веру вам,*
*хоць чорнай гразьзю ўсюды*
*Плюе вам цар і раб, стары і малады.*

Ні храна сабе... Тут ужо напрамілы Бог запішуць у жыдамасоны на ўсё астатняе жыццё. Прыгадаюць заадно і святкаванне 44-годдзя ўтварэння дзяржавы Ізраіль, і натхнёныя аранжыроўкі яўрэйскіх песень, і мажліва, сёе-тое яшчэ. Застанецца толькі апрануць-такі ярмолку, прыняць іудзейскую веру і падаць заяву на выезд...

Наогул, работку мне падкінулі не сумную. Можна, вядома, і не рабіць. Але гэта значыла б — зноў быць засаджаным на аранжыроўкі песень беларускіх кампазітараў, а гэта непажадана: і без таго па мне даўно ўжо плача цыкл Э. Зарыцкага на вершы Ніла Гілевіча.

Буду, напэўна, спрабаваць нарадзіць. Хаця Купала — гэта ўжо дзядзька сур'ёзны, не Роберт Бёрнс, не Максім Багдановіч і нават не Лявон Пранчак. Тут вокамгненна зарыешся ў зямлю па самую шыю, як персанаж папулярнага кіно "Белае сонца пустэльні". Тут трэба камяні, якія пад пахай, пераўтварыць у нейкі будаўнічы матэрыял і няспешна выкласці з яго штосьці не надта змрочнае (нават для нашай роднай Змракляндыі), але і не дужа забаўнае. А то й праўда:

*Гэй, капайце, далакопы,*
*Яміну-магілу, —*
*А шырока, а глыбока,*
*Колькі хваце сілы.*
*Так капайце днём і ночай,*
*Помачу склікайце, —*
*Бо ў тым доле хаваць будзем,*
*Беларусь хаваці.*

Што, смешна?

Сапраўды, Іван Дамінікавіч глядзеў далёка ўперад: "далакопы" цяпер "вкалывают" — будзь здароў, у тры змены і без выхадных...

Які час, такія і песні. Гэта старое правіла пасуе не толькі да вялікіх імёнаў — кампазітараў хуткага рэагавання, — але і да нас, простых неханкоў.

**Пн. 24.8.1992 г.**

Працягваю ўсё-ткі даіць сваё творчае вымя ва ўпартых спробах загарнуць-такі вершы бедака Купалы ў якую-небудзь музычную абгортку. Надоі пакуль невысокія.

Не вытрымаўшы і двух тыдняў безмяцежжа адпачынку, ускрыў свой працоўны кабінет Маэстра. Днямі бачыліся. Мэтр здорава паднабраўся моцы. Бурная слоўная плынь яго была несупынная, а палёт фантазій — бязмежны як ушыркі, так і наўскос. З цяжкасцю вырваўшыся з палону чарадзейных мрояў, памкнулі з Пранчаком, не згаворваючыся, у бліжэйшы гастраном па піва. Толькі пасля трэцяга глытка паспрабаваў "собраться с мыслишками", што было нялёгка. Млява абмеркаваўшы з Лявонам некалькі дробных творчых пытанняў, пацёгся на Камароўскі рынак. Там, на шчасце, сустрэўся з жонкай і купіў чагосьці смачнага. Дома ў люстэрку ўбачыў надзіва малаpазумную калабельдыйскую (намёк на партрэтнае падабенства з вядомым у савецкі час "песняром тундры". — **С. Б.**) морду і зразумеў: можа ўратаваць толькі смачная вячэра. Балазе, жонка паспагадала і ўсмажыла кураня з часнаком. Першая ж чарка "Зуброўкі" за "благолепным" сталом у лоджыі пяшчотна атуліла і плаўна спусціла з блакітных вышыняў на цвёрдую зямлю.

*Кепска, братцы, жыць нам стала,*
*Няма шчасця, добрай долі.*
*Калі хлеб ёсць — няма сала,*
*Хоць гарэлкі — дык даволі!*

**Янка КУПАЛА**
**народны паэт**

Вяртаюся да надояў. На гэты момант мною ўчарне складзена 11 мелодый з прыпевамі на вершы класіка. Да канца лета ёсць колькі дзён, каб давесці іх да ручкі і прадставіць сінгерам. Пазней, калі Big-Band на 2 месяцы сыдзе за кардон, буду ператвараць гэты эрзац паціху ўжо ў тавар. Тавар такі сёння "не в цене", — але ўжо чым багатыя. Не распалохаць бы, барані Божа, духаў...

А ў сумежнай Расіі, "бліжнім замежжы", тым часам шырока адсвяткавалі гадавіну "путча-91". Дакладней, не гадавіну путча, а гадавіну "правалу путча і перамогі дэмакратыі". Гулялі дэмакраты — паводле рускай традыцыі — тры дні ды тры ночы. Мітынгі, шэсці, адкрыццё мемарыяльных дошак, музеяў ды помнікаў. Уручэнне ордэнаў і медалёў. Феерверкі. Рок-канцэрты "На барыкадах". І ўсё гэткае — карацей "Віват Расія!"

Што й казаць, тады, год таму, і праўда было жудліва. Памятаю вельмі дакладна, хаця на барыкадах не быў, што было жудліва. Але калі ў пятніцу па тэлевізары паказвалі самы галоўны "ўрадавы" мітынг і выстраеных на трыбуне "белага дома" правадыроў-рэфарматараў, дык ад іх дэмакратычных твараў мароз бегаў па спіне ўверх-уніз, направа-налева і кругамі. Далёка не кожны з гэтых Твараў-асоб умяшчаўся ў экран. Ды і Штандар расійскіх рэформаў — Прэзідэнт Маскоўскі і Усяе Русі, герой Жніўня — адсутнічаў; у наяўнасці быў толькі адзін штандар — трохколерны дзяржаўны. Але гаварылі шмат і прыгожа, безупынна выкідваючы ўверх-уперад грозныя кулакі. Натоўп адказваў каму свістам, каму галёканнем і тупатам, — так што мітынг быў як трэба. Для паўнаты малюнка бракавала толькі вялікага вогнішча, шчодра падсілкаванага творамі правадыроў Кастрычніка і матэрыяламі партыйных з'ездаў-пленумаў у хаўрусе з "Малой зямлёй", "Адраджэннем" і "Цаліною". Ды вогнішчы яшчэ, думаецца, наперадзе. А пакуль ходзяць чуткі, што святашаноўныя рубінавыя зоркі на вежах Крамля неўзабаве будуць заменены на пазалочаных дзвюхгаловых арланаў. А Цела з Мармуровай Дамавіны паедзе на працяглыя гастролі па імперыялістычных краінах...

Умее, умее гуляць расійскі люд! Як жа ж не гуляць: упершыню за тысячы гадоў на Русі перамагла дэмакратыя! Перамагла і маршам-строем, па трупах ашуканых набожных бабулек ды сталінізаваных ветэранаў, пакрочыла аж да Рынку, даганяючы сусветную цывілізацыю!

Ці разбяруць на сувеніры Крамлёўскую сцяну — паводле прыкладу Берлінскай?

**Чацв. 4.2.1993 г.**

— Ты ж ведаеш, як я люблю тваіго "Максіма". Але новая праграма (на вершы Янкі Купалы. — **С.Б.**) — яшчэ на дзве галавы вышэй.

Такія прамовы пачуў я сёння ад Маэстра. І падумаў з уласцівай мне сціпласцю: "Ну і добра. Галоўнае, каб заказчык быў задаволены".

**Аўт. 29.9.1993 г.**

...Так увогуле-то нядоўга і здохнуць. Не, сур'ёзна. Ціха, без помпы, уначы, у пыле і няўтульнасці, у трызненні напліву чарноцця, пад уедлівы шэпт радыё "Свабода", гулкае бязладнае хлюпанне ўласнага сэрца і пакорлівае бязмоўе адключанага тэлефона на стале.

"Памёр у жабрацтве ды самоце", — гэтая распаўсюджаная канцоўка многіх біяграфій была досыць модная ў вядомыя часы на старонках патрапаных ды пакрэмзаных школьных падручнікаў.

Ніякім чынам не прэтэндуючы на месца ў будучых акадэмічных дапаможніках, трэба ўсвядоміць усё ж, што свая "біяграфія" ёсць у кожнага, і ці варта сконьчваць яе "ў жабрацтве ды самоце" па ўласнай добрай волі?

**Чацв. 28.10.1993 г.**

Наша з Арк. Куляшовым работа, здаецца, зрушылася з мёртвай кропкі. Дзякуючы, канечне, заўчорашняму напружанаму роздуму на гэтых старонках.

Вас, Аркадзь Аляксандравіч, не міне тая ж доля, што і Вашых вялікіх папярэднікаў.

У ціхай, змрачнаватай і халоднай кабінет-кватэры, дзесьці ў Серабранцы, на чацвёртым паверсе дзевяціпавярховага монстра з забітым смеццеправодам, у пракураным пакоі, за вялікім пыльным раялем, які не настройваецца, ля вакна сядзіць вусаты ўскалмачаны тып у акулярах плюс 1,5, з нелаcкавым тварам, мяркуючы па ўсім, НЕ ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ, і штосьці з размахам крэмзае ў таўсматым нотным сшытку, час-почас нервова сціраючы нанесенае на паперу вялізным, з томік Вашых вершаў, ластыкам. Аранжавая настольная лямпа з буйным чорным надпісам MONTANA ярка асвятляе завалены паперамі пюпітр. Злева ад таго, хто сядзіць, побач з электронным метраномам "Рытм-2" і шкляной попельніцай памерам з невялікую конаўку, агеньчык маленькай лампады, устаўленай у гранёную шклянку. Справа — незапаленая свечка. Пад густым аплывам стэарыну з цяжкасцю адгадваецца бутэлька ад "Советского шампанского", у гарлавінку якой яна калісьці была ўведзена. Перад вачамі крэмзалы — раскладная школьная падстаўка для кніжак. Час ад часу ён кідае кароткія злыя позіркі на худы стосік сашчэпленых жоўтых лісткоў з машынапісам, уладкаваны на падстаўцы.

Гэта, Аркадзь Аляксандравіч, Вашы вершы. Яны кладуцца на музыку.

**(Пераклад С. БЕРАСЦЕНЬ)**

***Фота з асабістага архіва Вольгі ПАЛІВОДЫ.***



# ПЯТРО, ГРУЗІ ЖЫТА!

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

— Значыць, жывы мой Пятро. Жывусенькі. Знак мне падаў, — уздыхнула Мар'я.

Доўга маліла яна Бога, каб паказаў: дзе Пятро? Але Бог не даваў знаку...

### 3

Ваенны трыбунал прыгаварыў адказнікоў, якіх набралася з аднаго Вялікага Малешава ажно 26 чалавек, да расстрэлу. Пятро з палёгкай уздыхнуў: нарэшце скончацца допыты і здзек. Смерць не страшыла. Наадварот, была жаданай. У малітвах ён дзякаваў Усявышняму, што даў сілы і крэпасць: ён усё вытрымаў, што дапусціў і адмераў Гасподзь. Яго білі, прымушалі, каб ён нешта падпісаў і прысягнуў самому Сатане, што будзе забіваць людзей... Ён адмаўляўся. Тады яны пачыналі ўгаворваць і пераконваць — Пятро заставаўся цвёрдым. Зноў білі, цярпліва пераносіў. І маліўся Богу, каб даваў сілы. Іншы раз ужо з цяжкасцю разумеў: чаго ад яго патрабуюць? Былі моманты, блізкія да вар'яцтва. Аднойчы энкэвэдзіст падрабязна растлумачыў, што ўсё вельмі проста: вось тут ён паставіць подпіс і яго пусцяць дахаты.

— Не можа быць? Сур'ёзна, пусціце дамоў? — не паверыў Пятро.

— Так. Толькі подпіс пастаў — і вольны як птушка.

— А чаго ж я раней не падпісваў?

— Хто цябе ведае? Упёрся, як баран. Ты зразумей, нам гэта для справаздачы трэба. Такі парадак. А ты выдраўся, як Піліп з канопляў, і ўсё хочаш перакруціць на свой манер. Нельга так, не ў лесе жывём.

— Гэта ж мне падалося, што я некага павінен забіць. Быццам вы прымушаеце мяне, а я не згаджаюся. Таму і трымаюць тут.

— Дурань ты. Нікога забіваць не трэба. Вайне канец хутка. Усіх спраў — подпіс паставіць.

Пятро адчуваў: штосьці тут не так. Не можа быць, каб з-за нейкага звычайнага подпісу на дакуменце ён столькі нацярпеўся. Калі ж перад ім лёг тэкст ваеннай прысягі — ён успомніў, што ад яго патрабуюць.

— Не. Не! Не!! — нібы апёкшыся аб агонь, замахаў ён рукамі.

Яны хочуць, каб ён забіваў людзей. Каб прадаў Хрыста, нібы Юда, і стаў забойцам, прысягнуў, што згодны на гэта. Пагадзіцца — тое ж самае, што зрабіць. Яны тлумачылі: немцы ворагі, іх трэба знішчыць — а Пятро адказваў:

— Немцы мне нічога кепскага не зрабілі. Забіваць чалавека грэх...

І ўвогуле, ён нічога не разумее ў гэтых войнах. Не ён іх пачынаў...

Пасля аб'яўлення прысуду трыбуналу Пятро быццам цяжар з душы скінуў, гарачымі малітвамі дзякаваў Госпада: хутка скончацца і яго пакуты. Ён вытрымаў усё, як Хрыстос... Не, Хрысту было цяжэй. Але цяпер і ён смела паглядзіць у вочы Айцу Нябеснаму. Гасподзь не пакінуў яго ў цяжкую хвіліну. Хутка забярэ да Сябе. Адпачне і, нарэшце — выспіцца... "дзяцей толькі шкада, пяцёра ўсіх: меншанькай чатыры годзікі, а старэйшаму чатырнаццаць — памочнік ужэ... Як Мар'я будзе адна ўпраўляцца? Ці не галадуюць яны там?.. Гасподзь паклапоціцца, — думаў Пятро, — дый людзі не пакінуць. Праз людзей сваю работу Бог робіць, людзьмі творацца Яго справы..."

Некалькі тыдняў сядзеў ён у адзіночнай камеры і рыхтаваўся да смерці, да доўгачаканай сустрэчы з Тым, дзеля каго жыў. Есці не хацелася. На душы было лёгка і радасна. Хадзіў туды-сюды па камеры і гучна спяваў псалмы. Няхай ведае ахова: ён не баіцца смерці. Ён прагне таго моманту, калі душа высвабадзіцца з палону нямоглай плоці і ўзляціць Духам у бяздонную вышыню.

І раптам прадчуванне вечнасці азмрочылася: расстрэл замянілі дваццаццю пяццю гадамі лагерных работ. Ажно ў Архангельскую вобласць завязлі яго, у горад Молатаў.

### 4

У пачатку сорак шостага паштальёнка прынесла пісьмо. Уся сям'я абступіла старэйшага Колю, калі ён асцярожна надарваў канверт і дастаў невялікую засаленую паперку: "Шлець пасылкі штомесяц, бо я негож" — прачытаў ён і, абвёўшы ўсіх здзіўленым позіркам, пакруціў паперку ў руках:

— Ну, чаго маўчыш? — успрывожылася Мар'я, — чытай далей.

— Усё. Тут больш няма нічога. Во толькі падпісано: "Ваш бацько Пятро".

— Як ўсё? Нічога больш нема?

— Ну во, гледзі сама: "Шлець посылкі штомесяц, бо я негож". А тут ніжэй — "Ваш бацько Петро". І ўсё...

### 5

Лагернікі галадалі. У ежу ішло ўсё, што варушылася, поўзала, бегала ці лятала, некаторыя лавілі пацукоў, жаб і мышэй — усё гэта затым прагна з'ядалася. Пятро не мог перасіліць сябе, каб наталяцца нячыстай жыўнасцю. Але яму і ў галаву не магла прыйсці думка напісаць пісьмо дахаты, тым больш папрасіць харчоў. Па-першае, перапіска забаранялася, хоць некаторыя і знаходзілі магчымасць паслаць вестачку на волю, а па-другое, часта думалася, што сям'я дома і так галадае: уся гаспадарка раней трымалася толькі на ім. Уяўлялася, як толькі яго забралі — усё адразу ж прыйшло ў заняпад. Кароткую цыдулку ад імя Пятра напісаў Сцяпан Каржакевіч з суседняй вёскі. Пятро сапраўды схуднеў і ад слабасці ледзьве не хістаўся ад ветру, вось і вырашыў Каржакевіч, калі Пятро не дажыве, то хоць іншым перападзе штo-колечы з пасылкі, але ніяк не думалася яму, што ягонае пісьмо ўратуе земляка ад немінучай смерці.

### 6

"Жывы! Чула маё сэрца, што жывы Пятро", — думала Мар'я, вяртаючыся ад паштальёнкі. Здавалася неверагодным, што яна можа паслаць пасылку і ён атрымае ў далёкай Архангельскай вобласці. Паштальёнка расказала, што трэба зрабіць драўляную скрынку, нават памеры на паперцы перапісала. Мар'я ішла да Пятровага брата Міхалкі, трымаючы ў шурпатай далоні акуратна складзеную цыдулку. Міхалка доўга ўглядаўся ў паперку, а потым спытаўся:

— А з якіх дошчак рабіць?

Яна толькі плячыма пацінула: адкуль ёй, цёмнай жанчыне, ведаць?

— З трыццаткі, ці мо з сорокоўкі? То ж яе, тую посылку, пэўно кідаць будуць у поездох. То ж не блізкі свет — Архангельска вобласць. Ты во шчо, Мар'я, ідзі до поштаркі і распутайся. А я покуль матэр'ялу нагледжу.

Зноў шпарка пакрочыла яна да паштальёнкі, а Міхалка тым часам залез на вышкі і нагледзеў добрую дошку, акурат саракоўку: упёрся нагамі ў драбіну, выцягнуў яе з-пад сена і скінуў далоў. Мар'я ўжо чакала ўнізе: "Швыдкая ты", — адобрыў ён швагрыху, злазячы з драбіны.

— Вона сказала, шчо трэба робіць з фанеры.

— А дзе ж я тое фанеры возьму?

— У яе така скрынка е. Кажэ, каб ты пойшоў дэй поглядзеў. Як гэто?.. Во! Кажэ, ек не стандарт, то вона не пpыме посылку.

Міхалка незадаволена буркнуў пад нос і сам пацягнуўся да паштальёнкі, яна жыла праз хаты тры. З паўдарогі ён вярнуўся, зайшоў у сваё сенцы, пашарыў рукою на паліцы і запіхнуў у кішэню пацёртай куфайкі складаны метр. Паштальёнка дастала з-пад стала фанерную скрынку і выставіла, як на продаж, на чысты абрус.

— Вось такая. Гэто стандарт.

Міхалка пакруціў скрынку ў руках, дастаў з кішэні метр, абмераў бакі, пастукаў костачкай пальца ў бакавіцы і прычмокнуў языком: "Хфанера".

— Але, фанеры.

— А шчо, обізацельно з хфанеры робіць?

— Ну я не знаю, — збянтэжылася паштальёнка, — гэто стандарт.

— А дзе ж я хфанеры возьму? — задумаўся Міхалка і потым, успомніўшы, што ад немцаў засталіся нейкія папкі з дакументамі, спытаўся: — А картон пойдзе?

— Не. Картон размокне, — упэўнена адказала паштальёнка, — роб'яць посылку і з матэр'ялу, бандзіроль называецца. Але воны ненадзёжные — усё стоўчэцца. Гэто ж ажно ў Архангельскую вобласць. Вось гэто стандарт. Така і трэба.

— А колі з гонты зробіць? Гонта ж тонкая, акурат як хфанера.

Паштальёнка маўчала. Яна ўвогуле не ведала, ці прымуць у раённым вузле сувязі самаробную скрынку: з вёскі ніхто нікуды не пасылаў пасылак, гэта першая... Адразу пасля вайны яна шмат атрымлівала пасылак з фронту, але атрымаць працэй, чым адправіць.

— Ну робець з гонты. Але коб размеры булі одзін к одному, а то могуць вернуць з Городка.

— Шчо й таке бувае?

— А няўжэж! — з выглядам знаўцы адказала паштальёнка. — І рэечкі обізацельно, тут па баках, — паказала яна, — шчоб можно було рукамі дзержацца.

— То ты дай мне для образца гэну. — Паштальёнка не адважвалася. — Ну мне ж трэба погледзець, як вона зроблена.

— Ну, возьмець, — нарэшце здалася яна, — але зразу ж вернеце. Бо гэто стандарт.

Паўдня Міхалка майстраваў скрынку: абгаблёўваў кожную гонтачку — атрымалася як фабрычная. Вечарам аднёс гатовую да швагрыхі. І цэлую ноч не магла Мар'я заснуць, усё думала: якога гасцінца адправіць Пятру. Раніцай схадзіла на другі канец вёскі і папрасіла ў Сымона Жлукты слоік мёду: "Вясною адраблю!" — запэўніла яго. Потым па некалькі разоў перакладала ў скрынцы небагатыя харчы: шматок зжаўцелага сала, сушаны сыр, нізку сушаных баравікоў, торбачку чарніц і жменьку з сухарамі; як ні падавала – усё адно заставалася свабоднае месца. І тут яна ўспомніла пра гарбузікі, вельмі любіў іх Пятро, сядзе бывала ў нядзельку на прызбе і цэлы дзень, знай сабе, лушчыць і лушчыць: "Як гэта ў мяне з галавы выскачыла? Якая радасць яму будзе..."

Юркнула ў кладоўку і вярнулася адтуль з палатнянай торбай гарбузікаў, развязала яе і, зачэрпваючы прыгаршчамі насыпала ў скрынку, утрамбоўваючы растапыранымі пальцамі. Потым адумалася і ў каторы ўжо раз выпажыла на стол змесціва пасылкі, перавярнуўшы скрынку ўверх дном, высыпала гарбузікі на стол.

— Дзеці! — клікнула яна, — ідзіце сюды! Усіх паклічце! — загадала Мар'я, убачыўшы дзве чарнявыя галавы, што высунуліся з-за фіранкі з другой палавіны хаты.

Праз хвіліну ўсе пяцёра абкружылі маці.

— Многа месца займае шалупінне, — растлумачыла яна, будзем лушчыць. Пашлем бацьку, ён жа іх любіць.

Рэштку вечара і цэлы наступны дзень сям'я Флар'яновічаў лушчыла гарбузікі, ажно пучкі на пальцах шчымелі ад болю. Раз-пораз Мар'я прыкрыквала то на аднаго, то на другога: "Куды ў рот цягнеш! У місу кідай. Гэта ж бацьку... Вы заўсёды маеце семкі, а ён бедны ў той цюрме мо і макавай расінкі за дзень не возьме ў рот".

Паўвядра шалупіння высыпала яна на досвітку курам і дзякавала Бога, што навёў яе на такую думку. Місу ачышчаных гарбузікаў вывернула на бляху, у якой сушыла грыбы, і падсмажыла на алеі. Яшчэ гарачыя гарбузікі засыпала ў пасылку, утрамбавала, шчыльна забіваючы шчыліны. І ўсё з малітвай, у размовах з Усявышнім. Калі пасылка была ўладавана, клікнула старэйшага, каб ён забіў крышку.

### 7

Вельмі здзівіўся Пятро, калі адправілі яго ў суседні барак за пасылкай. Падумалася: нешта пераблыталі, памыліліся... Калі ж адразу ўбачыў на скрынцы зваротны адрас і пазнаў почырк старэйшага сына — сэрца радасна забілася. Тут жа ў паштовым бараку загадалі адкрыць. Заскрыгаталі цвікі, падчэпленыя штык-нажом ахоўніка. Першае, што кінулася ў вочы, калі зняў крышку, былі гарбузікі... Ад забытага водару ледзьве не страціў прытомнасць. Паджарыстыя, чырвоненькія, яны блішчалі на сонцы тлушчам, быццам самі прасіліся ў рот. Нагнала поўны рот сліны, Пятро зглынуў яе і чамусьці пачырванеў тварам.

Ахоўнікі пераглянуліся, усміхнуліся і пацiснулі плячыма: "Гарэлкі няма?" — спытаўся адзін з іх. Паштар ухапіў аберуч скрынку, перавярнуў уверх дном і высыпаў усе на стол. Слоік з мёдам і шматок сала адклаў у бок:

— Астатняе можаш забіраць.

Пятро не ўстрымаўся, зачарпнуў жменю гарбузікаў, разявіў рот і ссыпаў туды насенне. Ахоўнікі зарагаталі як жарабцы. А ён згроб у скрынку рэшткі хатніх скарбаў такім чынам, каб гарбузікі засталіся зверху. Жменя за жменяй зачэрпваў гарбузікі, ідучы да жылога барака, і прагна жаваў.

На другі дзень забалеў жывот. Суткі не вылазіў з прыбіральні. Паклалі ў шпіталь. Урачы западозрылі дызентэрыю. Лагернае начальства перапужалася не на жарты: "А раптам хвароба перакінецца на іншыя жылыя баракі, ахопіць увесь лагер?!"

Ад Пятра вырашылі пазбавіцца. Нікому і ў галаву не магло прыйсці, што прычынай хваробы былі не кішэчныя палачкі, ці якія-небудзь іншыя хваробатворныя бактэрыі, а звычайныя дамашнія гарбузікі, што акрамя ўсяго іншага, з'яўляюцца яшчэ і добрым слабіцельным.

Уручылі даведку аб вызваленні і адправілі дахаты. Буханку хлеба, якую далі ў дарогу, ён сашчыпаў і па кавалачках адправіў у рот яшчэ да таго, як апынуўся за агароджай.

"Дзіўны гэты свет, — думалася Пятру, едучы на таварняках, папутках ці дабіраючыся пешкі дахаты, — то абвінавачвалі, што я "дзізенцір нейкі", то зараз, дзякуючы гэтай самай "дзізенцірыі", мяне адпусцілі дамоў". У двух гэтых словах, такіх падобных па гучанні і так непадобных па сэнсе, яму ўбачылася раптам вялікая Тайна Гасподняга Промысла.

•

Маці расказвала, што помніць, як бацька вярнуўся з лагера: "Быў худзюсенькі, скура ды косці. А на руках кожная жылка прасвечваецца...".

— Сядзіць ён на лаве, а людзі заходзяць у хату, постояць у порозі, поздороўкаюцца, хто головою покачае, а хто й заплачэ: "От, пусцілі померці на своёй лаві". І несуць з усяго сяла, хто яйкі, хто сало, хто гладыш смятаны... Потым пухнуць бацько почаў. Ніхто не веры́ў, што ён будзе жыць. А маці маёй, яна ж была хрышчана Святым Духом, сніцца сон, а ў сне і говорыцца: "Пятро, грузі жыто!" — некольки разоў так сказалося. І кажэ моя маці нам: "Не бойцеся, будзе жыці ваш бацько!"

— І поправіўся твой дзед. І нас усіх на ногі поставіў. Онь, яшчэ і подмурок зробіў под нашую хату. Во, бачыш, сынку, якія цудныя дзела робіць Гасподзь... А вы не верыце. І гэто ж усё чыста праўда, не вудуманэ — усе пережыто.



## ПАСПЯШАЙ!



# СТВАРЭННЕ

***7 кастрычніка, у бліжэйшы аўторак, Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі дае спектакль "Стварэнне свету". Калісьці гэтай яркай пастаноўкай на музыку Андрэя Пятрова, у мастацкім афармленні Яўгена Лысіка, з Людмілай Бржазоўскай ды Юрыем Траянам у галоўных партыях пазначыў пачатак стварэння свайго тэатра Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ.***

Роўна 30 гадоў таму, 10 кастрычніка, пачалася праца харэографа ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі. Працяг гэтай працы, яе плён — у паспяховым творчым жыцці сусветна вядомага і цяпер ужо "суверэннага" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета нашай цяпер ужо суверэннай краіны. Тэатр, які ўзначаліў калісьці 26-гадовы майстар, адсвяткуе юбілей творчай дзейнасці свайго мастацкага кіраўніка разам з гледачамі, што прыйдуць на ўсё тое ж і кожны раз новае "Стварэнне свету".

**С. Б.**

## АФІША КАСТРЫЧНІКА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ**

***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66***

3 — К. Орф "Карміна Бурана", І. Стравінскі "Вясна свяшчэнная".
5 (раніца) — І. Марозаў "Доктар Айбаліт"
7 — А. Пятроў "Стварэнне свету"
8 — В. Кузняцоў "Макбет", М. Равель "Балеро"
10 — А. Мдзівані "Страсці" ("Рагнеда")
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**

***пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41***

4 — М. Рымскі-Корсакаў "Царская нявеста".
5 — Д. Вердзі "Рыгалета"
9 — П. Чайкоўскі "Яўген Анегін"
11 — Д. Вердзі "Аіда" (да 190-годдзя з дня нараджэння італьянскага кампазітара)
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**

***вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08***

3 — В. Такарчук, М. Вайтышка "Скарб. Нязломны рыцар"
5 — С. Кавалёў "Стомлены д'ябал"
9 — С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва"
10, 11 — А. Карэлін "І рэха адказала — ты" (прэм'ера)
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Тэатр юнага гледача**

5, 8 — Э. Портэр "Паліяна" (прэм'ера)

**Беларускі Дзяржаўны маладзёжны тэатр**

***вул. Даумана, 1, тэл. 289-32-62***

3, 12 — А. Астроўскі "Позняе каханне"
4, 9 — Ж.-Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна"
5 — Э. Іянэска "Трызненне ўдваіх", парадаксальная камедыя
8 — І. Зінгер "Тойбеле і яе дэман".
10 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
11 — М. Куліш "Казанне пра Гуску..." (прэм'ера).
Пачатак вячэрніх спектакляў а 19-й гадзіне.

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч" (касцёл св. Сымона і св. Алены**

***пл. Незалежнасці, 15, тэл. 220-56-32***

7 — М. Багдановіч "У краіне светлай...", музычна-паэтычны монаспектакль, выканаўца — В. Статкевіч.
13 — Я. Янішчыц "Прыпадаю да нябёс...", паэтычны монаспектакль, выканаўца — заслужаная артыстка Беларусі Л. Горцава
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**

***вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66***

5, 14 — Д. Марота, Б. Рандоне "Суцяшальнік удоў" (прэм'ера)
7 — Г. Гауптман "Перад заходам сонца", гісторыя дзіўнага кахання
8 — Э. Томпсан "На залатым возеры"
9 — А. Астроўскі "Ваўкі ды авечкі"
10 — А. Дудараў "У прыцемках"
11 — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"
12 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца"
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**

**пр. Ф. Скарыны, 44а**

3 — "Твой самы кароткі шлях — да мяне..." Творчы вечар Т. Мушынскай. Прэм'еры вакальнай і харавой музыкі на яе тэксты.

4 — "Гукі з кругабегу будняў". Канцэрт-імправізацыя. Швейцарскі дуэт М. Айхенбергер (кларнет, саксафон), Івано Торрэ (ударныя).

10 — Творчы вечар А. Каландзёнка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, выкладчыка Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі (флейта).

# ВОСЕНЬ БЕЗ МЕЖАЎ

*Леташні восеньскі фэст мастацтваў, зладкаваны Польскім інстытутам у Мінску, меў добры розгалас па ўсёй Беларусі. Ён запомніўся яркасцю ды разнастайнасцю жанрава-стылёвай палітры: на працягу трох месяцаў краіна-суседка ўражвала беларускую публіку вернісажамі, тэатральнымі спектаклямі, кінапаказамі.*

Асаблівы рэзананс мела імпрэза, прымеркаваная да 25-годдзя Кракаўскай студыі электраакустычнай музыкі. Узначальвае студыю добра знаны ў Мінску прафесар Марэк Халанеўскі, дзякуючы якому і нашы кампазітары пашыраюць свой досвед у электраакустычнай творчасці, атрымліваюць магчымасць стажыравацца ў гэтай галіне на міжнародным ўзроўні. Дарэчы, падчас леташняй прэзентацыі Кракаўскай студыі ў Мінску былі прадстаўлены і новыя электраакустычныя кампазіцыі нашых землякоў Руслана Апановіча ды Яўгена Паплаўскага.

У працяг леташніх арт-сустрэч зладкаваны фэст "Восень з польскай культурай", які ўжо месяц праходзіць на Беларусі. Мастацтва не ведае межаў, зблізкае людзей, зноў і зноў уражваючы разнастайнасцю: тэатральныя праекты, выстаўкі, семінары, канцэрты, фільмы... Прэм'ера спектакля "Ноч Гельвера" паводле п'есы сучаснага польскага драматурга Інгмара Вількіста ў пастаноўцы Аляксандра Гарцуева на сцэне вучэбнага тэатра Беларускай акадэміі мастацтваў. Польскі тэатр на фестывалі "Белая вежа—2003". Мінская прэм'ера "Піяніста", знакамітай стужкі Рамана Паланскага, год таму адзначанай "Залатой пальмавай галінай" у Канах, а сёлета — прэміяй "Оскар" па трох намінацыях...

Фэст працягваецца.

**7 кастрычніка** ў Беларускай акадэміі музыкі распачнецца цыкл лекцый-канцэртаў "Фрыдэрык Шапэн — паэт фартэпіяна". Першы вечар прадставіць яго балады, эцюды і паланезы ў выкананні студэнтаў БАМ і навучэнцаў Рэспубліканскага каледжа пры ёй.

**8 кастрычніка** — прэм'ера мастацкага фільма "Помста". (2002 г.) Ён зняты рэжысёрам Анджэем Вайдам на аснове ўласнага сцэнарыя, напісанага паводле аднайменнай драмы Аляксандра Фрэдра. Тут здымаліся знакамітыя польскія артысты Раман Паланскі, Януш Гаяс, Даніэль Альбрыхскі ды інш.

І восеньскі краявід, і палітра канцэртна-тэатральнага сезона багатая сёлета на радасныя ды яркія фарбы. Імпрэзы, якія ладкуюцца пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску, надаюць гэтым фарбам асаблівую шчодрасць і свой каларыт.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## КІНО



# РАЗАМ З ТЫМ, ШТО ТАНЧЫЦЬ У ЦЕМРЫ

Даўно заўважана, што гледачам падабаюцца фільмы з добрым фіналам. Асабліва нашым, якія, стаміўшыся ад бясконцай побытавай неўладкаванасці, душэўнай пустэчы, непаразумення шукаюць у кінематографе перадусім станоўчага, аптымістычнага, светлага. Аднак з 3 па 12 кастрычніка ў Мінску будзе дэманстравацца фільм, аўтар якога не імкнецца нікога суцешыць, падбадзёрыць, тым больш, паказаць выйсце ў лепшае. Найноўшы фільм дацкага рэжысёра Ларса фон Трыера "Догвіль", прэм'ера якога адбылася на сёлетнім Канскім фестывалі, ужо паспелі назваць "чалавекаскептычным"...

Стужка "Догвіль", якая доўжыцца тры гадзіны, — першая з задуманай Трыерам кінатрылогіі, прысвечанай Амерыцы (яна будзе мець назву "U, S and A"). Дзеянне ў ёй адбываюцца ва ўмоўным амерыканскім горадзе Догвіль, у які аднойчы прыязджае прыгожая незнаёмка Грэйс (славутая галівудская актрыса Ніколь Кідман). У прасторы павільёна, дзе ўсе дамы і прадметы толькі схематычна акрэслены крэйдай (фільм зроблены ў стылі тэатра і кіно) разыгрываецца эмацыянальна напружаная гісторыя пра людзей, якія здольныя быць і ахвярамі, і катамі адначасова. ("Я не веру ў злых людзей, —прызнаецца Ларс фон Трыер. — Але вось грамадства патурае злу ў людзях".)

Дарэчы, рэжысёр Л. фон Трыер, які прыдумаў першы калектыўны маніфест з часоў французскай "новай хвалі", "Догма-95" ніколі не быў у той злашчаснай Амерыцы. Але па словах вядомага дацкага кінематаграфіста, які ўпэўнены, што яго кінематограф глядач павінен успрымаць найперш эмацыянальна, літаральна — да сардэчных прыступаў (а яны і здараліся з людзьмі, што глядзелі папярэдні фільм Трыера "Тая, што танчыць у цемры"), гісторыя, расказаная ў "Догвіле", магла б здарыцца ў любой краіне свету.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

***НА ЗДЫМКУ: Актрыса Н. КІДМАН — галоўная гераіня "Догвіля" без грыму.***

## ЦЫТАТА АФІШЫ



**Актрыса Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Эвеліна САКУРА:**

**"Зараз у нашым тэатры наступіў такі пераломны момант, калі ўсё залежыць, як ні дзіўна, ад чыноўнікаў. Трупа вельмі добрая — сярэдні ўзрост 35—40 гадоў, гэта моцныя, разнастайныя, таленавітыя акцёры. Але бракуе рэжысуры — маладой, разнастайнай. І калі чыноўнікі пачуюць нашу просьбу, то ў гэтага тэатра можа быць выдатная будучыня. Трупа вельмі просіць паставіць галоўным рэжысёрам Сяргея Жураўля — і хутка мы даведаемся пра рашэнне".**

**"Эвеліна Сакура: у чатырох люстэрках", "РИО", 1—8 верасня, 2003 г.**

**НА ЗДЫМКУ: акцёр Сяргей ЖУРАВЕЛЬ**




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1607
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 1.10.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3670

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12